ЛіМ

ГАЗЕТА
ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ
БЕЛАРУСІ

# ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

12 жніўня 1994 г. № 32 (3754) Кошт 250 руб.

## І ЎСІМ ЗНОЙДЗЕЦЦА СПРАВА

***Вольга ІПАТАВА:** «У Амерыцы я ўбачыла, што беларусы могуць быць і з'яднаныя, і магутныя, і годныя...»*

**5**

## АДЗІНОТНІКІ

***Галіна БАГДАНАВА:** «Нашае грамадства знаходзіцца на зломе. Далей ці ўзважаная сталасць, ці... «старэчы маразм», — дадасцё вы, зняверання, расчараваныя ў пошуках хоць якога жыццёвага арыенціру. Адны шукаюць Бога, другія ручкаюцца з д'яблам, трэція вывучаюць гісторыю, чацвёртыя складаюць прыпеўкі... Усё гэта ўжо аднойчы было».*

**6**

## ПОМНІЦЦА МНОГАЕ...

***Антон СЕМЯНОВІЧ:** «У другой палове 50-х гадоў адбыўся пашыраны пленум праўлення Саюза пісьменнікаў Беларусі. Слова на ім узяў сакратар ЦК КПБ па ідэалогіі Ц.Гарбуноў. Ён пачаў так: «Товарищи писатели! Никакой отсебятины. Партия укажет вам, как писать!» Цяжка перадаць словамі абурэнне пісьменнікаў, якое было выклікана гэтымі трыма фразамі. У зале ўзняўся шум, пачуўся свіст, тупат ног, затым воклічы: «Прэч дурня з трыбуны!»*

**15**

## БУДЗЬМА РАЗАМ!

**Пачалася падпіска на IV квартал 1994 г.**

«ЛіМ» спадзяецца на вернасць прыхільнікаў свайму выданню. Не пашкадуйце 6000 рублёў і ў вас будзе што пачытаць доўгімі восеньскімі і зімовымі вечарамі.

Наш індэкс — 63856.

**Падпішыцеся на «ЛіМ» — ужо сёння.**
**Атрымлівайце «ЛіМ» — кожную пятніцу.**
**Чытайце «ЛіМ» — увесь тыдзень.**



*І продкі ўзносілі свой дух да неба...*

*Фота А.МАЦЮША*

# ЧАМУ Ж ГЭТАК РЭДКА?



Вяршыня мастацкага алімпа. Вяршыня ўрадавага прызнання: дзве дзяржаўныя прэміі. Ганараванне народным артыстам. Шчырасць захаплення ў глядацкіх вачах: «Гарбук!»

...Гэты здымак з архіва Уладзіміра Крука (пэўна ж, і лімаўскага) мы друкуем не толькі як успамін пра зорную ролю Генадзя Гарбука ў «Людзях на балоце» Івана Мележа. Не толькі як напамін пра шасцідзесяцігоддзе народнага артыста. У нас свая, урачыстая і самотная мэта: чаму так рэдка, так няпэўна, так выпадкова пераймае акцёра звычайная занятасць у рэпертуары Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы, або з'яўленне на кіна- і тэлеэкранах, або ўдзел у якім бы там ні было мастацкім — праекце, дзеянні, мерапрыемстве? Глядацкі эгаізм адметны: ён прагне новай вяршыні для Генадзя Гарбука. Ён чакае скарэння вяршыні.

**Ж. Л.**

# ДОБРЫ ПАЧАТАК

## ПЕРШЫ З'ЕЗД БЕЛАРУСАЎ БАЛТЫІ

***6—7 жніўня ў Вільні адбыўся 1-шы з'езд беларусаў краін Балтыі. Яго ініцыятарамі сталі дзеячы беларускіх культурных суполак Эстоніі, Латвіі і Летувы, а непасрэднымі арганізатарамі і гаспадарамі месца правядзення — кіраўнікі віленскіх беларускіх асяродкаў, найперш Таварыства беларускай культуры (Хв. Нюнька, Л. Луцкевіч), суполкі ЗБС «Бацькаўшчына» (А. Анішчык), клуба аматараў беларускай народнай творчасці «Сябрына» (В. Стэх) і інш. Асноўныя абавязкі па арганізацыі і правядзенні з'езда ўзяло на сябе Таварыства беларускай культуры ў Летуве і асабіста Хв. Нюнька.***

6 жніўня ў Віленскім палацы мастацтваў імя Чурлёніса сабраліся прадстаўнікі беларускіх арганізацый трох прыбалтыйскіх краін і Беларусі. Ад імя ЗБС «Бацькаўшчына» было зачытана вітальнае слова прэзідэнта ЗБС акадэміка Р. Гарэцкага. Даслаў прывітанне дэлегатам і намеснік прэм'ер-міністра Рэспублікі Беларусь В. Ганчар. Затым выступілі прадстаўнікі суполак Эстоніі, Латвіі і Летувы, якія падзяліліся з суродзічамі станам спраў у сваіх асяродках, надзёнными клопатамі і праблемамі. Адзначалася, што з'езд сабраўся і скліканы вельмі дарэчы, бо за 5—7 гадоў у краінах Балтыі паўстала багата беларускіх асяродкаў (і яны працягваюць гуртавацца, напрыклад, у Коўне), паміж якімі патрэбна ўсталяваць пастаянную сувязь і абмен думкамі па праблемах, якія ў Эстоніі, Латвіі і Летуве маюць шмат агульнага. З'езд і заклікаsuccesf закласці падмурак сувязі беларусаў краін Балтыі.

Апроч таго, наспела неабходнасць выпрацоўкі агульнай стратэгіі далейшага развіцця беларускіх інстытуцый у Прыбалтыцы і завязвання прававых стасункаў з дзяржаўнымі ўстановамі Бацькаўшчыны. Рашэнні з'езда і маглі б стаць, на думку арганізатараў, асновай дзеля такіх стасункаў.

Ці спраўдзіліся задумы, звязаныя са з'ездам? Па-першае, вельмі шмат гаварылася аб практычных праблемах у рабоце беларускіх асяродкаў, адбыўся шырокі абмен інфармацыяй, і ў гэтых адносінах «інфармацыйную» функцыю з'езд выканаў. Па-другое, адбыўся проста чалавечы, эмацыянальны кантакт калег па культурнай рабоце з Кохтла-Ярве, Даўгаўпілса, Рыгі, Вісагініса, Вільні, Салечнікаў (Шальчынінкая), Коўна (Каўнас) і Беларусі. І калі дагэтуль кантактаванне збольшага адбывалася выпадкова ці прыватным чынам, то зараз закладзена традыцыя абмену думкамі і афіцыйнай канстатацыі сваёй пазіцыі (адно з рашэнняў з'езда — перыядычнае правядзенне з'ездаў беларусаў краін Балтыі, не радзей чым раз на два гады). Што да афіцыйнага выказвання сваёй пазіцыі, то з'езд прыняў Зварот да Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, у якім намінальна выказаў сваю лаяльнасць да новай выканаўчай улады Беларусі і акрэсліў звяз праблем, звязаных з існаваннем у Эстоніі, Латвіі і Летуве этнічных беларусаў. Зроблена гэта лаканічна, але важка, і, трэба думаць, новая ўлада ў Беларусі мусіць улічыць у сваёй знешняй палітыцы і інтарэсы беларусаў краін Балтыі. Тым болей, што націск у Звароце да Прэзідэнта зроблены не на матэрыяльнай, а менавіта на прававой палітычнай падтрымцы. — Пры безумоўнай павазе і шанаванні незалежнасці краін Балтыі.

Гаспадары правядзення з'езда, віленчукі паклапаціліся пра змястоўную культурную праграму. У першы дзень работы дэлегаты прысутнічалі на адкрыцці мемарыяльнай дошкі ў гонар народнага паэта Беларусі Янкі Купалы (вул. Віленская, 14), які ў 1914—1915 гадах працаваў у Вільні рэдактарам «Нашай Нівы» і жыў па Віленскай вуліцы (зменена старая мемарыяльная дошка, у тэксце якой меліся істотныя фактычныя памылкі; аўтар новай дошкі — менскі мастак і скульптар А. Міронмчук). У другі дзень адбылося паломніцтва на віленскія могілкі Росы, дзе пахаваны Ядвігін Ш., У. Сыракомля, К. Сваяк, Ф. Аляхновіч, Іван і Антон Луцкевічы... Вандроўку па старым месцы правёў старэйшы віленчук, актыўны ў сваім веку журналіст і лектар Лявон Луцкевіч. Адбыліся таксама гутаркі ў рэдакцыі газеты «Наша Ніва», прагляд відэаматэрыялаў з жыцця беларусаў Віленшчыны (Т. Сапач), абмен думкамі аб эканамічных сувязях беларускіх асяродкаў Прыбалтыкі і Беларусі, абмеркаванне супрацоўніцтва беларускіх асяродкаў з міністэрствамі і ведамствамі Рэспублікі Беларусь... Па выніках работы прынята праграма дзейнасці беларускіх асяродкаў краін Балтыі на будучыню.

У рабоце з'езда прынялі ўдзел супрацоўнікі Пасольства Рэспублікі Беларусь у Літоўскай Рэспубліцы, прадстаўнікі міністэрстваў адукацыі і культуры і друку Рэспублікі Беларусь, Вялікай Рады ЗБС «Бацькаўшчына», Мінскага дзяржаўнага педагагічнага універсітэта, Брэсцкага педінстытута, карэспандэнты друку, радыё і тэлебачання, артысты. Увогуле, на думку нашага карэспандэнта, прадстаўніцтва Рэспублікі Беларусь магло б быць больш шматлікім і арганізаваным, у прыватнасці, маглі б прыехаць на з'езд і прадстаўнікі памежных раёнаў, якія займаюцца справамі культуры і друку, а таксама афіцыйныя кіраўнікі больш высокага рангу. Што ж — у Беларусі — змена ўлады, можа, таму і не было на з'ездзе міністраў і іх намеснікаў. Зазначым, аднак, што нашы прыбалтыйскія суродзічы бадай першымі з дыяспары паклапаціліся аб актуалізацыі сваіх праблем перад новай уладай на Беларусі і ў тым добры прыклад для іншых суполак і арганізацый дыяспары.

Наступны з'езд вырашана правесці на базе цэнтра беларускай культуры ў Салечніках, зноў у Летуве.

**Юрась ЛАГАДА**



тыя, зразумелыя ды змястоўныя: «Я падзялілася з вамі сваімі ўласнымі пачуццямі, — сказала Тамар на маленькім банкеце ў мясцовай школе. — Я буду плакаць... Людзі, якія натхнілі мяне на гэта, жывуць тут. Аднойчы я налічыла 86 чалавек — усе нам дапамагалі»... Дапамагалі беларускія ды яўрэйскія насельнікі Іўя (сям'ю Шапіраў і Соф'ю Камісараву разам з маленькай Рытай Грыбавай ды іншымі бялюсенькімі іўескімі дзеткамі можна было ўбачыць у самых нечаканых ролях прадстаўлення), прафесійныя і, дадам, вядомыя летувіскія акцёры Костас Смарыгінас ды Рымгаўдас Карвяліс, якіх пазнавалі аматары да прыхільнікі Маладзёжнага тэатра з Вільні; з імі — балерына Аўшра Гінейзітэ, актрыса Рэната Вагнерытэ, беларускія музыканты Таццяна Бугасава, Мікалай Ткачоў, Аксана Гірэнка, дапамагала мемарыяльнае таварыства «Ліда — Іўе» ды шэраг спонсараў-фундатараў з амерыканскага і летувіскага боку...

...Я разумею, што поспех грунтаваўся якраз на ступені глядацкага сур'ёзу ды, мовім так, адказнасці за ступень сваёй культуры ды ўласныя ўспаміны; я разумею, што менавіта ступень глядацкай абазнанасці, сталасці ўзбуйніла іўеўскую мастацкую падзею; я падзяляю павагу да нацыі, якая, ахвяруючы, гоіць душу і зазірае лёсу ў самыя вочы; і толькі адна мастацкая ўмова, мастацкая дэталь, драбніца, друзачка, жвірынка цяжка апусціла мае вочы долу...

Яўрэі беларускага мястэчка ў сваім адноўленым на паўтары гадзіны маляўнічым і прывідным таленавітым існаванні не ўмелі сказаць па-беларуску ні слова...

**Жана ЛАШКЕВІЧ**

*Фота Уладзіміра ШАХЛЕВІЧА*

# ПЕРШАЯ, ПАВАЕННАЯ. У ВІЛЬНІ

Падчас першага з'езда беларусаў краін Балтыі наш карэспандэнт сустрэўся з кіраўнічкай кафедры беларускай мовы, літаратуры і этнакультуры Віленскага педагагічнага універсітэта сп. Лілеяй Плыгаўкай. З гэтага навучальнага года спадарыні Лілеі выпадае яшчэ быць і дырэктарам першай у паваеннай Летуве агульнаадукацыйнай сярэдняй школы з беларускай мовай навучання — 68-й сярэдняй школы горада Вільні. Як паўстала школа, якія праблемы перад ёй стаяць — аб гэтым і распавяла Л.Плыгаўка.

Школа, дзеля навучання ў якой пададзена на сёння болей за 140 заяў з Вільні і Віленшчыны, паўстала ўсяго з аднаго беларускамоўнага класа, які быў арганізаваны настаўніцай Г.Сівалавай. У ім вучылася толькі каля дзесятка чалавек. Аднак дзякуючы арганізацыйнай працы беларускай кафедры і віленскіх настаўнікаў (І.Лавік, Г.Пяткевіча, Г.Сівалавай, А.Вадарэзавай, Ю.Шаўцова і інш.), аднаўленню ў Летуве Таварыства беларускай школы, а таксама дапамозе клуба аматараў беларускай народнай творчасці «Сябрына» (В.Стэх), ТБК (Хв.Нюнька, Л.Луцкевіч), — справа беларускамоўнай школы істотна зрушылася. Надзвычайную актыўнасць праявілі бацькі вучняў, чые парады дапамаглі выпрацаваць найбольш прыдатную мадэль школы. Нядаўна ўлады Летувы пайшлі насустрач дамаганням беларускай грамады і выдзелілі пад школу памяшканне колішняга дзіцячага садка ў віленскім мікраёне Караліншкі (вул. Сіціно, 21). Сфармаваны добры калектыў настаўнікаў — каля 25 чалавек. Падручнікамі і метадычным матэрыялам школа таксама забяспечана. (Вялікую дапамогу калектыву аказвае Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь і асабіста міністр В.Гайсёнак, — апякуецца віленцамі старшы інспектар упраўлення па сувязях з беларусамі за мяжой Г.Пяцігор; Савет Міністраў — намеснік начальніка ўпраўлення па сацыяльна-культурным комплексе Н.Голубева, супрацоўнік К.Шалястовіч, беларускае пасольства ў Летуве, МЗС, шматлікія навучальныя ўстановы і грамадскія арганізацыі).

Што можа даць беларускамоўная школа дзецям Віленшчыны? Найперш, як лічыць Л.Плыгаўка, — дэмакратычны і беларускі характар адукацыі, бо на беларускай мове (часткова — летувіскай) будзе весціся не толькі выкладанне ўсіх прадметаў, але і пазакласная выхаваўчая работа. Апроч таго, школа цалкам пазбаўлена якой-небудзь палітызацыі. Яе «ідэалогія», калі можна так сказаць, — нацыянальная, беларуская, але з улікам спецыфікі краіны — Летувіскай Рэспублікі, і рэгіёна — Віленшчыны, які з'яўляецца шматнацыянальным; урэшце настаўнікі маюць рыхтаваць дзяцей да ўваходжання ў Вялікі Свет, які надта складаны і супярэчлівы. У гэтым сэнсе школа не толькі працягвае, але і развівае традыцыі колішняй віленскай беларускай гімназіі міжваеннага часу...

Выпускнікі школы з беларускай мовай навучання незалежна ад нацыянальнасці атрымаюць права паступлення і льготнага (бясплатнага) навучання ў вышэйшых навучальных установах Рэспублікі Беларусь (у 1995 годзе маецца быць 11 выпускнікоў школы).

Што датычыць беларускага аддзялення на факультэце славістыкі ВПУ, то ў гэтым годзе набору на яго не было — Летуве гэтак шмат настаўнікаў-беларусістаў не патрэбна. На сёння на трох курсах беларускага аддзялення вучыцца каля 30 студэнтаў. Не выключана, аднак, што ў будучым беларуская мова і літаратура могуць увайсці як прадмет у праграму агульнаадукацыйнай школы Летувіскай Рэспублікі і настаўнікі спатрэбяцца... А пакуль што можна пажадаць віленцам плёну ў справе адукацыі.

**Ю.Л.**

P.S. Калі на Беларусі і за яе межамі ёсць дабрадзеі, то школа не адмовіцца ад матэрыяльнай дапамогі. Тэлефон у Вільні — 73-31-01 (Віленскі педагагічны універсітэт).

## ЯЎРЭІ-ХРЫСЦІЯНЕ ЗАПРАШАЮЦЬ

**Маляўнічыя афішы, кідкія тэле- й радыёанонсы настройваюць мінчукоў на тое, што неўзабаве ў беларускую сталіцу прыйдзе самабытнае свята: Фестываль яўрэйскай хрысціянскай музыкі ды танца. Удзельнічаюць артысты з Ізраіля, Францыі, ЗША. Наведнікі канцэртаў змогуць задаволіць не толькі свае эстэтычнае пачуццё, але й цікаўнасць да гэтага незвычайнага пласта духоўнай культуры. Фестываль у літаральным сэнсе адкрыты для ўсіх: уваход у Палац спорту, дзе ён будзе ладзіцца, — свабодны. Імпрэза прадоўжыцца тры дні: 17, 18, 19 жніўня, пачатак канцэртаў а 19-й гадзіне.**

**Н. К.**

## ЖУРБОТНЫ ЮБІЛЕЙ

**Споўнілася 80 гадоў з дня нараджэння народнай артысткі Беларусі Таццяны Каламійцавай. У гісторыі беларускай музычнай культуры гэта легендарная асоба: да фанатызму адданая мастацтву, Таццяна Міхайлаўна з 1944-га і амаль да апошніх гадоў спраўляла нялёгкую дырыжорскую місію за пультам вядучых сімфанічных калектываў рэспублікі: філармнічнага і аркестра Акадэмічнага тэатра оперы і балета. Асабліва доўгі ды плённы быў перыяд працы ў ДАВТе. Пад кіраўніцтвам дырыжора Т. Каламійцавай тут ішлі балеты Я. Глебава ды Г. Вагнера; як музычны кіраўнік яна спрычынілася да унікальнай пастаноўкі оперы С. Танеева «Арэстэя», а таксама «Лазнгрын» Р. Вагнера і, нарэшце, апошняга свайго спектакля, дырыжыраваць якім прыходзіла ўжо, так сказаць, з «заслужанага адпачынку» — «Казкі Гофмана» Ж. Афенбаха.**

**Дырыжор Т. Каламійцава не дажыла да свайго юбілею літаральна некалькі месяцаў. Пра тое, што Тацццяна Міхайлаўна памерла, людзі дазнаваліся з неафіцыйных крыніц, часцей выпадкова, як і мы, лімаўцы. Апошні шлях народнай артысткі, на жаль, не быў ушанаваны ўвагай афіцыйнага прадстаўніцтва культуры, на ніве якой яна так самааддана шчыравала. У рэпертуары ДАВТа не засталося нават апошняй, гэтак любімай гледачамі, работы Т. Каламійцавай — «Казак Гофмана». Дык, можа, наша дзяржава знойдзе магчымасць хаця б годна ўшанаваць памяць выдатнай руплівіцы музычнага мастацтва, талент, густ, майстэрства якой паважалі й за межамі Беларусі?**

**Н. К.**

## «ДУША І ЧАС»

**— так назвала сваю працу, выкананую пры дапамозе Праекта падтрымкі навуковых даследаванняў Цэнтральна-Еўрапейскага універсітэта, Л.Чарнышова. Гэта даследаванне прапануе ў трэцім нумары за сёлетні год часопіс «Спадчына». Матэрыялы нумара — разнастайныя. Выданне не забывае, што за назвай яго хаваецца не толькі тое, што ўжо стала набыткам гісторыі, а і народжанае сёння, калі яго па вартасцях ацэняць нашы наступнікі.**

**Прынамсі, «Спадчына» аддае вялікую ўвагу пісьменніку-святару Вінцэнту Адважнаму. Закончана публікацыя пад яго сапраўдным прозвішчам Язэп Германовіч раздзелаў з дакументальнай кнігі «Кітай—Сібір—Масква» (пачатак у першым і другім нумарах), а цяпер, калі ласка, пачатак рамана ў вершах В.Адважнага «Князь і Лапаць» (сам аўтар, праўда, жанр гэтага твора, выдадзенага асобнай кнігай у Лондане ў 1964 годзе, вызначыў больш сціпла — «сучасная казка»/.**

**Два матэрыялы прымеркаваны да 200-годдзя паўстання 1794 года: артыкул без подпісу. «Касцюшка: Сяхновічы—Бярвёль» і артыкул У.Емяльянчыка «Дывэрсійныя рэйды ў паўстанні 1794 г. на Беларусі».**

**Марына Ліннікава знайшла ў кнігасховішчы Маскоўскага цэнтральнага дзяржаўнага архіва старажытных актаў матэрыялы, якія, несумненна, выклічуць цікавасць усіх, каму небыякава нацыянальная гісторыя — «Новае пра Усяслава Чарадзея».**

**Двойчы ў нумары выступае А.Грыцкевіч — «Пра герб горада Слуцка» і «Гісторыя геапалітыкі Беларусі». З іншых матэрыялаў чытач знойдзе — спіс найбольш буйных нацысцкіх лагераў смерці на часова акупіраванай тэрыторыі Беларусі ў 1941—1944 гадах, інтэрв'ю в.а. адказнага сакратара Нацыянальнай Камісіі Рэспублікі Беларусь па справах ЮНЕСКА Н.Жылевіч карэспандэнту «Спадчыны» — «Далучэнне да ЮНЕСКА», артыкулы Г.Нячаевай «Ікона на Ветцы», Т.Габрусь «Здань базыльянскай святыні», М.Раманюка «Этнаграфічныя малюнкі Язэпа Драздовіча», працяг успамінаў Я.Малецкага «Пад знакам Пагоні».**

**Р.Максімовіч у артыкуле «Навіны грозныя» 1563 году» (перадрук са зборніка «Запісы», кніга 4, Мюнхен, 1966) вяртае да першых беларускіх газетных выданняў.**

# Алесь АСІПЕНКА



Беларуская літаратура панесла незаменную страту. 6 жніўня не стала аднаго з яе шчырых рупліцаў — пасля цяжкай і працяглай хваробы памёр Алесь Асіпенка, усяго месяц не дажыўшы да свайго 75-годдзя. Мужны чалавек, якім быў Алесь Асіпенка, да апошняга ўдару сэрца нёс у сабе малады аптымізм, а вышыня гадоў надзяліла яго разважлівай мудрасцю.

Алесь Харытонавіч Асіпенка нарадзіўся 7 верасня 1919 года ў вёсцы Пушкары Віцебскага раёна. Вучыўся ў педагагічным інстытуце,настаўнічаў. З 1942 года — партызан, памочнік камісара па камсамоле ў партызанскім атрадзе на радзіме. Восенню 1943 года ў толькі што вызваленым ад акупантаў Горацкім раёне распачаў камсамольскую работу. З гэтага часу на доўгія гады яго жыццё непарыўна звязана з моладдзю. Наўрымслівы і апантаны, ён зараджаў энергіяй пошуку і росту людзей вакол сябе. Па ўсіх прыступках журналісцкай лесвіцы: ад карэспандэнта да рэдактара — прайшоў ён і сам у рэдакцыі газеты «Чырвоная змена»; ад загадчыка аддзела да галоўнага рэдактара — у часопісе «Маладосць». Затым працаваў галоўным рэдактарам кінастудыі «Беларусьфільм». З 1976 па 1980 год з'яўляўся галоўным рэдактарам штотыднёвіка «Літаратура і мастацтва».

Як адзнакі яго няўрымслівасці і адданасці Радзіме — ордэны Айчыннай вайны першай і другой ступеняў, Працоўнага Чырвонага Сцяга, «Знак пашаны», многія медалі. Яму прысвоена званне «Заслужаны работнік культуры БССР».

Аднак галоўная яго праца — гэта літаратурная дзейнасць. Не адно пакаленне беларускіх чытачоў спазнавала свет і дабрыню чалавечых адносін па творах Алеся Асіпенкі. Ад першага апавядання ў 1945 годзе да кніг «Лёд растае», «Подых кветак і працы», «Парогі», «Абжыты кут», «Жыта», «Канец бабінага лета», раманаў «Вогненны азімут», «Непрыкаяны маладзік» рос, дужэў і сталеў яго талент, станавілася больш упэўненай рука майстра. Сведчаннем гэтага — выбраныя творы ў 2-х і 3-х тамах. Прызнаннем і ацэнкай важнасці літаратурнай дзейнасці сталі прэміі Ленінскага камсамола Беларусі, імя І.Мележа. Рознабаковасць таленту Алеся Асіпенкі выявілася і ў стварэнні сцэнарыяў мастацкіх фільмаў «Пяцёра адважных», «Канец бабінага лета», «Трывогі першых птушак» і іншых.

Алесь Асіпенка з таго арлінага пакалення людзей, на долю якога выпала ваеннае ліхалецце, нялёгкае адналенне з руінаў, вялікія і малыя будоўлі на ўсіх абшарах былога СССР. Апантаныя рамантыкі, багатыя бессярэбранікі, яны шукалі працу, а не яна іх. Пакуль не выпала з пальцаў ручка, пісьменнік працаваў. Ці не таму такія ўражлівыя яго набыткі апошніх гадоў. Напісана некалькі кніг, і сярод іх «Святыя грэшнікі», «Клетка для берасцянкі», раман «Лабірынт страху», у часопісе «Маладосць» (N 9) друкуецца аповесць «Выканаўца».

У кнізе «Вечнасць Млечнага Шляху», што выходзіць у выдавецтве «Мастацкая літаратура», Алесь Асіпенка расказвае пра свае сустрэчы з Кузьмой Чорным, Міхасём Лыньковым,Аркадзем Куляшовым, Іванам Мележам, Уладзімірам Караткевічам, з іншымі знакамітымі дзеячамі літаратуры, культуры і мастацтва. Надыдзе час, і сябры раскажуць і пра жыццё самога Алеся Асіпенкі, самабытнага пісьменніка, сумленнага чалавека і працаўніка, якім ён застанецца ў нашай памяці.

**В.ГАНЧАР, А.БУТЭВІЧ, Р.БАРАДУЛІН, Я.БРЫЛЬ, В.БЫКАЎ, Н.ГІЛЕВІЧ, П.ПАНЧАНКА, М.ТАНК, І.ЧЫГРЫНАЎ, І.ШАМЯКІН, В.АДАМЧЫК, М.АЎРАМЧЫК, С.АНДРАЮК, Г.БУРАЎКІН, А.ВЯРЦІНСКІ, М.ГІЛЬ, Г.ДАЛІДОВІЧ, А.ДУДАРАЎ, А.ЖУК, С.ЗАКОННІКАЎ, В.ЗУЁНАК, В.КАВАЛЕНКА, А.КРАСІНСКІ, А.КУДРАВЕЦ, С.КУХАРАЎ, П.МАКАЛЬ, І.НАВУМЕНКА, В.НІКІФАРАЎ, У.ПАЎЛАЎ, Н.ПАШКЕВІЧ, А.ПІСЬМЯНКОЎ, І.ПТАШНІКАЎ, Б.САЧАНКА, В.СУПРУНЧУК, У.ЮРЭВІЧ**

# СКРУШНА І ГОРКА

Думалася, вось неўзабаве, напачатку верасня, Алесю Харытонавічу споўніцца 75, і будзе ў нас, яго калег, сяброў, чытачоў, добрая нагода, каб сустрэцца з ім, пагаварыць аб яго кнігах, выпытаць пра новыя планы ды шчыра пажадаць яму моцнага здароўя і яснага розуму, каб здзейснілася ўсё, што ім задумана.

Але злы лёс распарадзіўся інакш. І кветкі, якія раслі для юбілейных букетаў, мы сёння ўскладаем да яго труны, а замест светлых віншавальных слоў вымушаны гаварыць горкія словы апошняга развітання.

Цяжкая, непапраўная бяда абрынулася на нас, на нашу літаратуру, журналістыку, кінематограф, нашу культуру. Мы страцілі нястомнага працаўніка духоўнай нівы. І якраз у той момант, калі ён быў на высокім узлёце, калі нам і без таго не хапае такіх разважлівых, высокага гарту руплівцаў нацыянальнага Адраджэння, якім сцвердзіў сябе, сваёй працай, сваімі творамі Алесь Асіпенка. Той, хто ведае, як складвалася чалавечае і творчае жыццё Алеся Харытонавіча, ніяк не скажа, што ён быў «пястуном лёсу». Наадварот! І ў раннія дзяцінства, і ў юнацкія, і тым больш у наступныя гады лёс выпрабоўваў яго хваробамі, якія часам не пакідалі надзей на выратаванне. І не было б нічога дзіўнага, калі б у такіх акалічнасцях сфармавалася песімістычная, кволая натура, здатная хіба што на тое, каб засланіцца ад паветраў прыродных ці грамадскіх вятроў. Але ўспомнім, які гэта быў зайздросна актыўны, наступальны, жыццелюбівы і жыццярадасны характар, праявы якога пакаралі нас і ў жыццёвых абставінах, і ў яго творчасці, багатай усёй гамай чалавечых пачуццяў.

Сваю адметную мастакоўскую біяграфію Алесь Харытонавіч стварыў дзякуючы таму, што ён настойліва і ўпарта ішоў да абранай ім у юнацкія гады мэты — прысвяціць сябе роднай літаратуры. «Талент і праца» — гэтая універсальная формула плённага творчага жыцця якраз нельга больш выразна ўвасобілася ў пісьменніцкім лёсе Асіпенкі.

Прыгадваючы шматлікія кнігі Алеся Асіпенкі, пачынаючы ад першага зборніка апавяданняў «Лёд растае» і ўмоўна заканчваючы нядаўна выдадзеным раманам «Лабірынты страху», прыгадваючы кінафільмы, пастаўленыя па яго сцэнарыях, з удзячнасцю думаеш, як многа самародкаў мастацкай праўды знайшоў ён, капаючы свае шурфы і ў сучасным нашым жыцці і ў блізкай ці далёкай нашай гісторыі. Як многа адкрыў ён яркіх характараў, пазначаных сваім часам, гераічных і трагічных падзеямі народнага жыцця.

Але наша літаратура і мастацтва абавязаны Алесю Асіпенку не толькі творамі, якія выйшлі з-пад яго пяра. Ён быў таленавітым арганізатарам літаратурнага і мастацкага жыцця, праз многія гады цярпліва і мужна дзяліў свае сілы паміж асабістымі творчымі інтарэсамі і абавязкамі кіраўніка рэдакцыйных калектываў у «Чырвонай змене», «Маладосці», на кінастудыі, у «ЛіМе». І мы ведаем, якіх душэўных выдаткаў каштавала ў тыя гады прынцыповаму чалавеку гэтая праца. Як самаддана ішоў ён на небяспечны канфлікт з ідэалагічнымі кіраўнікамі, калі трэба было адстаяць праўдзівы твор. А колькі ведаў і цярпення аддаў ён выхаванню маладых талентаў, шчыра радуючыся кожнаму новаму літаратурнаму імю.

Дарагі Алесь Харытонавіч!

Ты пражыў слаўнае, напоўненае высокімі чалавечымі памкненнямі жыццё, вартае быць узорам для іншых. Вясковы настаўнік, адважны партызан, камсамольскі важак, журналіст, прафесійны пісьменнік — усюды ты пакінуў свой яркі след, і ён не сатрэцца ў памяці тых, з кім цябе зводзіў лёс, хто дакрануўся ці дакранецца душой да тваіх кніг і кінафільмаў.

Каб ты ведаў, як скрушна і горка ў мяне сёння на душы! Нас з табою доўгія гады звязвала агульная справа, агульная праца і дружба. Бывала, што мы сыходзіліся ў вострых ня вострых, нядробязных спрэчках. Калі ў эмацыянальным запале з майго языка часам і зрываліся няўзважаныя словы, то ў гэтую судную хвіліну шчыра прашу цябе: даруй!

Нам будзе вельмі адзінока без цябе, будзе не хапаць твайго шчырага, прынцыповага голасу на нашых сходах, на старонках газет, часопісаў, на экране тэлебачання.

Хай табе будзе пухам родная беларуская зямля!

**Нічыпар ПАШКЕВІЧ**

# ЧАЛАВЕК З НАШАЙ БІЯГРАФІІ

Горкая вестка аб смерці незабыўнага Алеся Харытонавіча застала нас, лімаўцаў, знянацку. Знянацку, хоць і ведалі, што апошнім часам ён цяжка хварэў. Знянацку, бо ведалі і тое, што з сардэчным стымулятарам у грудзях ён працягваў апантана і плённа працаваць на пісьменніцкай ніве, выпусціўшы за апошнія гады не адну харошую кніжку.

Хто ў ім пераважаў — таленавіты пісьменнік ці такі ж таленавіты журналіст-рэдактар? Хай адкажуць на гэтае пытанне даследчыкі беларускай літаратуры і беларускай журналістыкі. Мы ж, лімаўцы, можам засведчыць, што рэдактар ён быў, як кажуць, боскай міласцю. Так здарылася, што прыйшоў Алесь Харытонавіч у 1976 годзе ў нашу газету пасля яе працяглага занятку. І чатыры гады, на працягу якіх ён стаяў ля лімаўскага штурвала, былі гадамі сапраўднага рэнесансу газеты, заваяваўшай сімпатыі і павагу тысяч новых падпісчыкаў.

Як рэдактара, Алеся Асіпенку вызначала пастаяннае пачуццё новага, і хоць працаваць яму даводзілася пад недрымотным вокам мясцовых сусляўцаў з ЦК, яму ніколі не здраджвала рашучасць зрабіць газету вострай і бескампраміснай. У гэтых варунках Алесь Харытонавіч быў гатовы заўсёды падтрымаць, а калі трэба, дык і абараніць кожнага супрацоўніка ад пагроз і помсты некаторых «герояў» лімаўскіх публікацый.

Напрыканцы гэтага кароткага развітальнага слова хочацца сказаць: вы, Алесь Харытонавіч, былі і заўсёды застанецеся чалавекам з нашай біяграфіі.

**Лімаўцы**

***Машына з дзвюма пасажыркамі імкне праз бясконцыя прасторы амерыканскіх штатаў. Грандыёзныя краявіды ды летні адпачывальны настрой перапыняюць... тыя, хто сустракаецца на шляху: спатканні з сустрэчнымі — самая мэта падарожжа. З паселішча ў паселішча, з горада ў горад, з дарогі ў дарогу, — часам запаволена, замаруджана, залішне падрабязна ды праўдзіва. Усяму, што пры гэтым руху фіксавалася на стужку, бракуе звыклай амерыканскай імклівасці, усмешлівасці ды рэкламнай заглыбленасці ў незразумелыя справы. Цыкл перадач Беларускага тэлебачання «Беларусы ў Амерыцы» ці не ўпершыню грунтуецца на вельмі і вельмі практычных меркаваннях: паказаць, прадэманстраваць, распавесці, нарэшце, вызначыць, вылучыць з матэрыялу тое, што можа даць несумненную карысць гледачам, хоць сабе і ўскосную. Веданне, мовім так, таго неспадзяванага чорта, якога так страшна малявалі доўгі час, і які нават праз сённяшняе айчыннае ўвасабленне свойскім так і не зрабіўся: малога бізнесу, пачатковага прадпрымальніцтва. Па сутнасці, нашы эмігранты, мусячы асвойтацца з жыццём Амерыкі, прайшлі самую сапраўдную школу выжывання. Шмат хто адмаўляўся ад звыклых заняткаў ды прафесіі. Перавучваўся. Шмат хто, зарабіўшы, вяртаўся да сваёй уласнай справы. І вось намаганне распавесці пра гэты шлях ажыццёўлена... дзвюма пасажыркамі апісанай машыны: Вольгаю ІПАТАВАЙ ды Валерыяй СКВАРЦОВАЙ, — пісьменніцай, рэдактарам газеты «Культура» ды рэжысёрам тэлебачання, якая ўзяла ў рукі камеру. Намаганне не заўжды паспяховае, але выразнае, дакладнае, пэўнае. Бадай, з акалічнасцяў, ад якіх залежала паспяховасць, і варта пачаць.***

***На пытанні адказвае Вольга ІПАТАВА.***

# «І ЎСІМ ЗНОЙДЗЕЦЦА СПРАВА»



**— Вольга Міхайлаўна, перадусім хацелася б даведацца, каму належала такая практычная ідэя — распавесці пра малы бізнес, пра справу банкаў, прыватныя будоўлі і да т.п. — і якім чынам ды сродкамі яна ажыццяўлялася?**

— Наш вядомы суайчыннік Васіль Мельяновіч, наведваючы радзіму Беларусь, сустракаўся з народным дэпутатам Уладзімірам Заблоцкім, маючы на мэце сваё старое і запаветнае жаданне, якое фармуляваў так: «Што я магу зрабіць для развіцця беларускага прадпрымальніцтва?» Сышліся на тым, што перш-наперш варта проста паказаць, як і што робяць у Амерыцы, абмеркавалі, як паслаць групу для здымак некалькіх перадач пра сярэдні і малы амерыканскі бізнес, маючы на ўвазе, што ў любым выпадку гаворка павінна кранацца амерыканскіх беларусаў і самых розных бакоў іхняга жыцця. Уладзімір Заблоцкі, прыкідваючы, хто б мог цыкл такіх перадач давесці да экрана, звярнуўся да мяне ды пазнаёміў з Васілём. Са мной мусіў ехаць (аператарам і рэжысёрам) Юрый Марухін, але ў самы апошні момант ягоныя планы перамяніліся, — так што я апынулася без аператара і мусіла... паразумецца з Валерыяй Скварцовай, маёй былой калежанкай, супрацоўніцай рэдакцыі літаратурна-драматычных праграм БТ (цяпер рэдакцыя называецца «МЭТА»).

**— Калі ўжо гаворка зайшла пра грошы, дык не магу не запытацца пра фінансаванне такой паездкі: Беларускае тэлебачанне цяпер можа выпраўляць сваіх карэспандэнтаў у Амерыку?**

— Мы шчыра дзякуем тэлебачанню за магчымасць зманціраваць матэрыял і паказаць яго. І толькі. Утрыманне ў Амерыцы браў на сябе Васіль Мельяновіч. Білетамі займаўся асабіста Уладзімір Заблоцкі. Камера, якой мусілі працаваць, была старая і — састарэлая. На такой у Амерыцы не працуюць нават аматары. І яна такі ляснула перад самым ад'ездам: давялося запайваць мікрафон і ўжо ў Амерыцы Васіль нам купляў дэтальку, якая спатрэбілася для чарговага рамонту. Па сутнасці, Лера Скварцова самастойна тэхнічна забяспечыла ўвесь цыкл перадач. Дапамогу Уладзіміра Заблоцкага ўвогуле перааацаніць цяжка.

**— А якая роля, акрамя вашага ўтрымання, выпала Васілю Мельяновічу?**

— Паляшук Мельяновіч з тых, хто складае самую сілу, самы падмурак тамтэйшых беларусаў. Ягоны бацька, напрыклад, браў удзел у будаўніцтве двух цэркваў у Нью-Йорку, сам клаў цэглу, рабіў аклады для іконаў... Раскошны быў чалавек! Васіль склаў сваю праграму нашых дзеянняў, але, на жаль, не ведаючы сякіх-такіх асаблівасцяў працы тэлевізійнікаў, некаторых рэчаў проста не мог улічыць. Напрыклад, здымкі ў 12 гадзін дня пры 38 градусах і тамтэйшай вільготнасці немагчымыя фізічна, ды яшчэ калі служба ў царкве толькі-толькі скончылася і ўсе спяшаюцца раз'ехацца. Праўда, мы здымалі... Васіль, гаваркі, вясёлы, ганяў на сваёй машыне па прасторах пяці штатаў, змардаваў нас страшэнна, перш-наперш... закармліваючы рознымі амерыканскімі прысмакамі. Імкнуўся кіраваць, — нават тым, што трэба класці ў талерку і як лепш рассмакаваць тое, што пакладзена. За тры тыдні мы перажылі з ім цэлае жыццё: ён быў душою і натхніцелем нашых перадач. Знаўца звычаяў, абыходжання ды людзей.

**— А як вы арыентаваліся ўвогуле ды ў прыватнасці? Як выбіралі аб'екты ды людзей?**

— Амаль увесь час мусілі імправізаваць. Першыя здымкі — жах. Мяне ратаваў вялікі тэлевізійны досвед і тое, што пра беларускую эміграцыю я чытала ўсё, што магла знайсці. Сярод тых, каго мы здымалі, былі людзі, пра якіх у нашым гродзенскім аддзяленні Саюза пісьменнікаў (а я сама з Гародні) гаварылі толькі шэптам. І потым... гэтыя людзі, як аказалася, ведалі мяне. Гэта выявілася на маім выступленні ў Крэчаўскім цэнтры ў Нью-Йорку. Ведалі нават па першым зборніку вершаў, пра які вельмі хораша калісь напісаў Юрка Віцьбіч. Некаторыя з вершаў, камуністычна-камсамольскія, выклікалі ў людзей адмоўную рэакцыю, але мне даравалі гэта як хваробу маладой паэткі ды ацанілі іншае... Вітаўт Кіпель, адкрываючы вечарыну ў Нью-Йорку, сказаў, жартуючы, што Віцьбіч абы пра каго не пісаў, а вось пра Вольгу напісаў з задавальненнем. Зала была паўнюткая, у першых радах я разгледзела твары Шукелойця, Мерляка, Бураўкіна, — таму, відаць, наш прыезд меў розгалас, нам пачалі спрыяць, ахвотна ішлі на кантакт, сардэчна паказваліся такімі, як ёсць...

**— Мяркуючы па перадачах, Васіль Мельяновіч імкнуўся ахапіць як мага...**

— А мы мусілі адпавядаць. Напрыклад, у 22.00 у Нью-Йорку скончылася наша вечарына, мы селі ў машыну і апынуліся ў Саўт-Рыверы (тры гадзіны дарогі) ля гадзіны ночы на... вяселлі. Ні здымаць, ні баляваць сілы не было. Наступным днём (10.00) пільнавалі ля цэркваў службу, пасля — здымкі саракахвіліннае гутаркі на тэлебачанні, пасля — у госці да Надзі Кудасавай, — гасцяванне склала цэлую перадачу. Мы арыентаваліся на фермы, на банкі, на кавярні, на майстэрні. Напрыклад, прэзідэнт Банка Оф Гановер пагадзіўся на працяглае інтэрв'ю, а я ж ніякі не знаўца грашовых спраў, пра што ж я мушу пытацца ў чалавека, каб ён з мяне не пасмяяўся? Я па ходзе справы, у машыне вывучыла канкрэтныя банкаўскія праграмы, Васіль кансультаваў, быў перакладчыкам, карацей, справіліся... Вельмі каштоўнымі былі незапланаваныя сустрэчы. Аднаго разу Васіль павёз нас паласавацца марозівам, а гаспадыня кавярні, дваццаціпяцігадовая дзяўчына, як высветлілася, прыдумала гэты гатунак марозіва самастойна і... разам з жаніхом узяла кавярню ў арэнду. Лера, узяўшы камеру на плячук, запісала абаяльны расповяд пра прадпрымальную жанчыну, якая пазычыла ў банку пяцьдзесят тысяч долараў і паспяхова падняла на ногі сваю справу. Мы заспелі яе якраз у той момант, калі яна рыхтавалася рабіцца ўладальніцай гэтай кавярні... Уразілі здымкі на ферме, дзе вырошчваюць клубніцы. Іх можна збіраць самастойна, пры гэтым есці колькі душа пажадае, ніхто слова не скажа, а сабранае самастойна абыдзецца ўдвая танней? — працэс збірання проста захапляе дзяцей, яны ажно шалеюць ад шчасця...

**— Я ведаю, што гэта — ваша першае знаёмства з Амерыкай. Чым яно найадметнае?**

— Бадай тым, што мы ўвайшлі ў асяродак тых, каго звыкла называем эмігрантамі. А знаёмства часам было не так проста зладзіць. Я, напрыклад, ведала Кастуся Мерляка, уплывовага дзеяча беларускай эміграцыі, я вельмі хацела з ім разгаварыцца на самыя розныя тэмы, але... Мярляк не ведаў мяне. Адказы я даставала з цяжкасцю. А пасля інтэрв'ю ён прыйшоў на вечарыну, загаварыў пра мае вершы і мы... паразумеліся. Відавочна сталі бліжэй! Вось калі б інтэрв'ю рабіць! Найбольш уразіла мяне тое, што беларуская інтэлігенцыя на эміграцыі давяла, выхавала нацыянальную адказнасць у асяродку моладзі. Колькі высілкаў прыклалі яны, каб не тое што не забыцца на родную мову, — каб развіваць яе! Васіль паказваў нам кружэлкі пяцідзесятых гадоў з народнымі песнямі, — выдадзена было гэта ў Амерыцы... Каб жа тут, на нашай зямлі інтэлігенцыя так працавала на нацыянальную свядомасць!.. Яны здолелі ўкласці беларускасць у беларусаў. І іхняя роля — духоўнага правадырства, — яшчэ не адыграная і не ацэненая таксама... У Амерыцы я ўбачыла, што беларусы могуць быць і з'яднаныя, і магутныя, і годныя, але пры гэтым не клясціся ў сваёй нацыянальнай адданасці без дай прычыны; што гэтае пачуццё нацыянальнае годнасці, культ продкаў, які між усім трымаецца і на найвялікшай побытавай культуры, і на духоўнай культуры краіны Амерыкі, спараджае зусім нечуванае, містычнае пачуццё-пачуванне... Могілкі ды цэрквы, бадай, скаланулі мяне: імёны Еўфрасінні Полацкай, Жыровіцкай Божай Маці, або надпісы на надмагіллях ды пахавальнях, лірычныя, патрыятычныя, часам вершаваныя, цытаваныя з Янкі Купалы (увогуле такога культу вялікай, высокай літаратуры, які ўвасабляе ў Амерыцы для беларусаў імя Янкі Купалы, я дагэтуль не сустракала)... Я глядзела на гэтыя дзівосныя (так-так!) праявы і думала, што мы, самі, беларусы Беларусі, часам выдаём на эмігрантаў у сваёй краіне, і што нашы эмігранты (не адно амерыканскія) проста сілкуюць нас любоўю да Бацькаўшчыны. Нечакана для сябе самой напісала цэлы цыкл вершаў, усё адно як намагаючысяператлумачыць, асэнсаваць вялікі патрыятызм гэтых людзей, — патрыятызм да Амерыкі таксама! Ён натуральна суседзіцца з любоўю да Беларусі. Вось дзе аніяк не трэба «праводзіць работу па патрыятычным выхаванні»! Людзі адчуваюць, што краіна Амерыка абароніць іх, сыноў і дачок, дзе б яны ні былі, у якое б скрутнае становішча ні трапілі. Дарэчы, я выказала неяк гэтую думку нашаму міністру абароны, і яна яму вельмі не спадабалася. А як жа! Мы ж з дзяцінства зацемілі, што крый Божа аступіцца, памыліцца, — сама дзяржава спляжыць, знішчыць! Здымалі перадачу пра фірму Анатоля Лук'янчыка, зусім невялікую. Ён якраз тлумачыў сістэму сацыяльнай абароны сваіх служачых, як увайшоў ягоны бацька, Лук'янчык-старэйшы, і першым ягоным пытаннем было: «Як там ваша незалежнасць?» Чалавек паважанага веку!.. І таму мы сталі пытацца амаль у кожнага, каго здымалі: што б ён хацеў сказаць тым, хто будзе глядзець перадачу ў Беларусі? І яны часта адказвалі цытатамі з Купалы пра любоў да Беларусі...

**— Зразумела, што адзняты матэрыял да такой ступені атрымаўся разнародным, што пры мантажы, мабыць, былі сякія-такія цяжкасці, не кажу ўжо пра ацэнку гледачоў...**

— Першую перадачу мы павінны былі зрабіць пра цэнтр «Полацак» у Кліўлендзе. Прыехалі з Амерыкі ў пятніцу, перадачу зманціравалі за суботу. І толькі тады зарыентаваліся: спачатку ў раскладзе перадач стаіць фільм Вацлавы Вярбоўскай «Беларусы, што жывуць у Амерыцы», — ён здымаўся за паўгода да нашай паездкі і абсалютна незалежна ад яе, а потым, ледзь не дзень у дзень — наша перадача! Нам нічога не заставалася, як усё перакройваць нанова, а пачынаць... з Генадзя Бураўкіна, з ягонага амерыканскага інтэрв'ю. З тэмы стаўлення інтэлігенцыі да ўсяго, што адбываецца вакол яе, з тэмы яе адказнасці за падзеі... Яе паказвалі тры разы, — так, што адгукнулася нават газета «Мы и время», аблаяўшы і нас, і час, і нашыя намаганні гэты час асэнсаваць. Аляксей Пяткевіч на з'ездзе пісьменнікаў падышоў да мяне і перадаў ад імя сваіх землякоў, што наша перадача — вельмі слушная менавіта цяпер, калі крыкаў інтэлігенцыі пра гібенне Беларусі ўжо ніхто не слухае. Тэлефанаваў і наш вядомы дзеяч Анатоль Белы — ацаніць цыкл нашых перадач. Маўляў, толькі ў дурных перадачах могуць расказваць пра апараты для засмажвання курэй або пра колькасць месцаў у зале беларускага цэнтра... Мы ж зыходзілі з таго, што на беларускі цэнтр збіралі па капейчыне, што дапамагалі будаваць яго сваімі рукамі, як і цэрквы, і бібліятэкі, і таму абсалютна натуральна, што набыткам такім можна ганарыцца! Кастусь Калоша, яшчэ адзін адметны руплівец-беларус, расказваў, як збіралі сродкі ды грошы, як заказвалі праект, як разлічвалі кожны цвік і цагліну... Варта толькі падумаць, што дзяржава ж не ахвяравала на праект ні капейчыны, ні цэнта, каб зразумець веліч, проста веліч яго ажыццяўлення і гонар тых, хто ажыццяўляў. Да ўсяго гэта — адметная ілюстрацыя на тэму прадпрымальніцтва і вялікага чалавечага паразумення, грунтам для якога была такая містычная, такая неарэчаўленая нацыянальная ідэя. Дадам — спалучаная з ідэяй грамадскай і чалавечай свабоды.

**— А якое самае моцнае асабістае ўражанне, — калі яго можна вызначыць?**

— Я закахалася ў гэтую краіну. Яны, амерыканцы, мабыць, могуць перасяліць да сябе палову свету і ўсім знойдзецца спагада, падтрымка і справа. І — умовы для самавыяўлення й дасканалення.

**P.S.** У эфір выйшла дзесяць перадач, увесь цыкл пра «Беларусаў у Амерыцы» складзецца з дванаццаці.

**Гутарку вяла**
**Жана ЛАШКЕВІЧ**

*На здымку: Васіль Мельяновіч, Вітаўт Кіпель і Вольга Іпатава.*

асэнсоўваць. Чытаем Платона, Ніцшэ, Бярдзяева (мяркую па творах усё тых жа трыццацігадовых). Так ці іначай у бліжэйшы час не шырыня, а менавіта глыбіня пагляду мусіць спадарожнічаць нашым творцам і палітыкам. Гатычная вертыкаль задае кірунак нашаму роздуму, ці вось у Вітака Чаропкі ёсць больш дакладны, вычытаны ягоным героем у Ніцшэ вобраз: «З чалавекам адбываецца тое самае, што і з дрэвам: чым больш яно імкнецца ўгору, да святла, тым з большай сілай імкнуцца карані яго ўглыб зямлі, у цемру, — у зло».

*Цяпер вас ужо не будуць дзівіць, а, можа, й непрыемна ўражваць сп'янелыя вочы, дзіўнае, здаецца, зусім выпадковае, а на справе наканаванае акружэнне галоўных герояў аповесцяў* — па сутнасці вельмі далікатных, узвышаных Арыеля В. Чаропкі і Андрэя А. Казлова. Адзінотнікі, богашукальнікі, якія ўсё жыццё прагна імкнуліся да неба, раптоўна — ці ўсё ж заканамерна — трапляюць у поле прыцягнення Д'ябла. Арыель, адкрыўшы ў сабе страшны дар — несці немінучую смерць усім, каго пракляне (такі дар, зрэшты, мелі многія вялікія пакутнікі), сам свядома робіць крок, ідзе на змову з Д'яблам (у зямным абліччы гэта каханак ягонае маці Іван, ён жа супрацоўнік спецслужбы дэпартамента пільнасці Феб). Але жорсткасцю, забойствам зробленыя грошы не пазбаўляюць Арыеля пакут. Толькі смерць каханай Нюты, уласная смерць, што ў рэшце рэшт дапамагае душы «пакінуць вязніцу з касцей і мяса», набліжае яго да гармоніі. Там, у іншым свеце, вольныя ад зямнога бруду іхнія душы яднаюцца.

Андрэй з аповесці А. Казлова не робіць апошняга кроку. Дакладней, яго яму не дае зрабіць нябожчыца баба Куліна (да слова, у Арыеля ў зямным жыцці не было гэткай жанчыны-ахоўніцы). Не капае Андрэева кроў на д'яблава сэрца (наяве на камень з Трокаў, які каханая Марына мусіць разам з ім пакласці на магілу свайго бацькі). Андрэй не прадаецца, і чароўная Марына ператвараецца на ягоных вачах у Варону. Аднак, не пераступіўшы мяжу святога, Андрэй не зазнае насалоды ад уласнае дабрачыннасці. Пакута, навязлівая, непераадольная роспач дратуюць ягоную душу. Ён думае, думае, успамінае... І п'е.

У рэальным жыцці і Арыель, і Андрэй *шмат п'юць*. Адзін у барах ды рэстарацыях, поруч з вядучым папулярнай тэлепраграмы, кіраўніком сакрэтнага ведамства. Другі проста на вуліцы, потым у бядотнай Манькавай хаце.

У такіх выпадках звычайна пішуць: «Яны п'юць, каб заглушыць душэўны боль». А можа, наадварот — абвастрыць? П'юць, каб разняволіць, вызваліць закамплексаваную сваю падсвядомасць, якая пачувае сябе натуральна хіба што ў снах, каб вызваліць сваю хай сабе спакутаваную душу, якая ў таго ж Вітака Чаропкі акрыляецца толькі праз смерць. У свой час Федэрыка Феліні прызнаваўся, што для яго творчасць — гэта сон. А яшчэ даўней Кальдэрон сцвердзіў назваю п'есы, што і «Жыццё ёсць сон». І няхай даруе мне адкрывальнік тэорыі снатворчасці на старонках нашага друку Алесь Асташонак, але паспрабую развіць гэтую тэорыю ў некалькі іншым аспекце. Героі многіх сучасных твораў успрымаюць сон не толькі як паратунак ад рэальнасці, але і адначасна як абвостранае інтуіцыяй новае яе ўспрыманне. Менавіта яно надае ім сілы ўзняцца над рэальнасцю.

Таму і п'юць, павольна хмялеючы, і Арыель, і Андрэй не ў кампаніі, а толькі з кампаніяй (даволі абстрактнай у Вітака Чаропкі і балесна-рэальнай у Анатоля Казлова). Занадта шмат, як цяпер высвятляецца, падманных норм і комплексаў засвоілі мы з самага ранняга дзяцінства, таму і не можам наяве быць вольнымі і незалежнымі, у рэшце рэшт годнымі. Даводзіцца спускацца ў самую бездань сваёй падсвядомасці, каб потым, набыўшы сваё натуральнае «я», уваскрэснуць, узняцца над рэальнасцю. Вялікая мудрасць хрысціянства ў тым, што варта баяцца не Д'ябла, а Бога. І адхрысціцца ад злога ў сабе і наваколлі можна толькі ўзняўшы, сканцэнтраваўшы ў душы сваёй усё самае добрае, светлае. Вось яно — святое, боскае выратавальнае кола. Іначай смерць, як у Вітака Чаропкі, ці жахлівае пераўтварэнне, як у Анатоля Казлова.

Вынікам роспачнага роздуму ў Чаропкі стаецца лірычнае азарэнне: «Дзве душы ляцелі над горадам, над тысячамі агнёў, што разліліся па лабірынтах вуліц. Яркі прамень, як пражэктар, прарэзаў цемру наперадзе і наблізіўся. Пяшчотнае залатое святло ўказвала закаханым душам шлях у царства любові, дзе без любові нічога не можа быць».

У Анатоля ж Казлова ўсё скончылася пакутным наканаваннем:

«Дзе б ты ні быў і з якой бы ні быў, а мяне ніколі з памяці не выкрасліш. — Апошнія Марыніны словы пры расстанні. — Мая існасць будзе з табою паўсюль. Ні на хвіліну ад мяне не вызвалішся. Я ў кожнай тваёй клетцы, у тваім мозгу, крыві, у тваіх жылах і пражылках»...

Само навакольнае жыццё быццам падштурхоўвае герояў у бездань. Дастаткова згадаць спецслужбу, дзе «абкладзеныя чорным мармурам сцены надавалі вестыбюлю выгляд прыёмнай залы гарадскога крэматорыя» (Чаропка) ці «тоўстую, як парафінам налітую» прадаўшчыцу піва, цэны, што «як блохі ў шалудзівых сабак, штодня скачуць, павялічваюцца, і ўжо, здаецца, ніхто не зможа іх зацугляць» (Казлоў).

Нядаўна перачытвала вершы нямецкіх экспрэсіяністаў (яшчэ адна паралель з 20 — 30-ымі гадамі нашага стагоддзя), і злавіла сябе на тым, што бачу ну проста дакладныя перагукі-асацыяцыі з сённяшнімі нашымі маладымі празаікамі — Вітакам Чаропкам, Анатолем Казловым, Барысам Пятровічам, Адамам Глобусам. Моцны подых экспрэсіянізму ў сучасным беларускім выяўленчым мастацтве і літаратуры, гэты наймоцны выбух яшчэ нядаўна зацуглянае ідэалагічным прэсінгам энергіі, пэўна, заслугоўвае асобнай гаворкі. Але дазволю сабе скарыстаць, *перанесці ў наш* час, вельмі дакладнае, як мне здаецца, пытанне аднаго даследчыка літаратуры. Сутонне, якое так вабіла нямецкіх паэтаў на пачатку стагоддзя і да якога так настойліва мкнуць маладыя беларускія празаікі, гэта сутонне перад змярканнем ці світаннем?

«Кожны з нас, дзетка, грэшны. З ім, грахом, нараджаемся, з ім і ў зямлю сыходзім. Але ж і з маленькага граху можа вырасці найвялікшы, які задушыць свайго ж гаспадара, таго, хто гэты грэх нарадзіў, гадаваў і песціў. Так са снежнага камячка можна скатаць глыбу, а можна камячок пакінуць камячком ці цеплынёю сваёй рукі і душы растапіць яго...»

Прыслухаемся да мудрае бабы Куліны з «Распяцця...» Анатоля Казлова. І дай Бог нам моцы ўзрасціць у душы сваёй любоў і цярплівасць, каб адхрысціцца ад навязлівай спакусы ў імя лёгкасці ды спакою адрачыся ад саміх сябе.

**Цемра прытулілася**
**да празрыстых шыб.**
**І крадзецца мякка**
**пад шум дажджу,**
**да мяне вясняны, мляўкі сон...**

Што ж нясе гэты сон лірычнаму герою? *Ды тое, што неаднаразова прыходзіла* да самога аўтара ў хвіліны роздуму: «Засынаю, і сніцца раздарожжа. Як дзіцё, крычу: — Куды ісці? І дзе шукаць таго святога выйсця, што запаветам мне ад прадзедаў, дзядоў?..» І на самой справе, дзе гэтае выйсце? Адказ прыходзіць «голасам гнеўным, але срабрыста-чыстым» з самой «вышыні»: «Мужайся, брат! Цярністым шляхам знаходзяць Сілу і Жыццё!»

Тут заўважаецца сувязь з фальклорам. У вуснапаэтычнай творчасці да чалавека сапраўднае азарэнне прыходзіць, як правіла, у сне. Лірычны герой Я. Юхнаўца *і ўваходзіў у літаратуру* (разумею ўмоўнасць такога сцвярджэння, паколькі і сам Я. Юхнавец і іншыя аўтары-эмігранты доўгія і доўгія гады мусілі пісаць калі не для сябе, дык для вельмі вузкага кола людзей, разумею, тым не менш цяпер ёсць падставы гаварыць менавіта так, а не інакш) «цярністым шляхам». Уваходзіў, каб заставацца самім сабой. З уласным светаразуменнем і светапоглядам. З пошукам таго ўласна-індывідуальнага, што гаворыць аб аўтарскай самабытнасці і непаўторнасці. Як не згадаць у сувязі з гэтым такое яго прызнанне: «Я вучуся ў самога сябе. Можа, яно благотнае, але спадзяюся, паможа камусьці...».

Праўда, спачатку Я. Юхнавец заставаўся прыхільнікам верша традыцыйнага. Але традыцыйнага ў самой форме, бо ўласнааўтарскае, не запазычанае, а народжанае непасрэдна талентам, праяўлялася ў экспрэсіўнасці паэтычных малюнкаў. Рэдка ў якога яшчэ паэта сустрэнеш гэтулькі «хмарнасці», «маланкавасці», «навальнічнасці»!

Больш таго, у Я. Юхнаўца ёсць нават цэлы цыкл «Усцяж ночаў». Там і «срабрыстым клыкам месяц апону цемры» разрывае, і «лятою птушкі рэха з долаў лунае дзесь за пераваламі», і «зоркі сходзяць з вышыняў напіцца смагла ў плёсах хвалі», і «краскі пад узмахам ветру» нагадваюць «полымя пажару».

Бадай, не толькі мастацкі прыём, каб праз прыродную неўтаймаванасць праўдзівей і паўней узнавіць неўладкаванасць у свеце. Нешта падобнае было на душы і ў самога Я. Юхнаўца. Змрочнасць перажыванняў і нараджала адпаведныя матывы. Вобразна кажучы, неабходна было «перахварэць». Пазбавіцца сваёй непрыкаянасці і другаснасці, выпадковасці ў чужым свеце. Пазбавіцца, каб ён стаў тваім. Ды інакш і нельга было. Хочаш-не *хочаш, а лёс наканаваў менавіта гэтыя, а не* інакшыя дарогі.

Сімпатычна, што гэтае «пераасільванне» самога сябе не задоўжылася. У немалой ступені і таму, што, як і кожны таленавіты чалавек, Я. Юхнавец разумеў: замыканне ў пэўным коле тэм для паэта небяспечна. А ратунак... Не, не ў мастакоўскай усяеднасці, а ў паўнакроўным адчуванні жыцця. У жаданні і ўменні спазнаць яго ва ўсёй шматграннасці, а не ў адной трывожнай супярэчлівасці. Прасветленасць прынеслі лірычныя, я б сказаў — сонечныя матывы. Ці то ўзноўленыя па памяці з таго, што *колісь бачылася і адчувалася на радзіме*, ці народжаныя ўжо новымі рэаліямі, новай паўсядзённасцю. Чытаеш вось гэтае —

**Маразянае звонкае ранне.**
**Асверы скрыпяць, і бушуе зара.**
**За акном мая любая, бачу,**
**порсткага поіць каня.**
**І да ганку да ейнага сцежка**
**следам**
**раўнюткім лягла.**
**І летуценні — думак узлёты.**
**І словы потым — каханне маё,**

і напачатку не верыцца, што напісана не кім іншым, а Я. Юхнаўцом. Не верыцца, ды *пасля знаёмства з наступнымі творамі*, у якіх лірычны герой не хавае сваіх пачуццяў, радуецца вяртанню да паўнакроўнага жыцця, пераконваешся — адбылося па сутнасці другое нараджэнне паэта. Я. Юхнавец здолеў, прытым хутка, без творчых выдаткаў, пераступіць мяжу, што падзяляе ўласна перажытае і інтуітыўнае, узятае ўжо не толькі з уласнай біяграфіі, а тыпазыванае, абагульненае. Інакш кажу, ужо не вершы пісаліся, няхай і на высокім мастакоўскім узроўні, а нараджалася Паэзія, якая сама па сабе не прымае чагосьці выпадковага, непаўнацэннага.

Гэтае паўсядзённае, узведзенае ў ранг паэтычнага, напаўняе цыкл «Шорах моўкнасці». Здавалася б, усё, пра што піша Я. Юхнавец, звыклае. Тым не менш яму ўдалося перадаць тое, што можа адчуць толькі душа чуйная і надзіва ўражлівая. Ідучы ад самога жыцця, аўтар адначасна ў гэтае жыццё і заглыбляўся, запыняючы позірк на паўсядзённых праявах яго. Ды рабіў гэта так, што паэтычны малюнак не проста запамінаецца. Ён уражвае сваёй дакладнасцю, а за гэтай дакладнасцю бачыцца чалавек як носьбіт усяго зямнога. Прыклад таму — верш «Касец», дзе прысутнічае сама паэзія працы. Цяжкой да стомы і такой патрэбнай:

**Шчэ надвячоркам ён дакасіў да пушчы.**
**О, задавольнасць ты нястомная!**
**Пот абцёр. І вось тады спакмеціў:**
**трава між дрэў, бы ў зялёным лёце,**
**бы мудрасць найвялікая ў сціплым перап-**
**лёце.**

**Ідзі, касец, дамоў,**
**ідзі.**

Вершы, пра якія ішла гаворка, як і шмат іншым, пазначаны канцом саракавых — сярэдзінай пяцідзесятых гадоў. Улічыўшы тагачасны ўзрост Я. Юхнаўца, прыняўшы пад увагу яго адарванасць ад Радзімы, беларускамоўнага асяроддзя, нельга не пагадзіцца, наколькі ўпэўнена пачынаў паэт. Удасканаленне майстэрства адбывалася не толькі шляхам паглыбленага асэнсавання жыццёвых з'яў, канкрэтызацыі перажыванняў лірычнага героя. Разам з тым Я. Юхнавец, які к гэтаму часу авалодаў англійскай мовай, пачаў перакладаць многіх вядомых паэтаў Злучаных Штатаў Амерыкі, асвойваць сучасныя формы вершаскладання. Праўда, яго пошукі ў стылі «мадэрн» былі не самамэтай, а адным з мастацкіх сродкаў, што дазваляе пэўныя падзеі ўбачыць у іх часавым і гістарычным праламленні. Раскаванасць радка, свабода паэтычнага пісьма, ускладнёная вобразнасць, насычаная метафарыстычнасць, пераход ад паэзіі да прозы, увядзенне ў сюжэтную канву твора дыялогаў і маналогаў — *усё гэта характэрна для паэмы* «Калюмбы», што дала, як вядома, назву адной з яго кніг. Аўтарскай гаворцы папярэднічаюць радкі: «Сыну слаўнаму народу ўслаўленага Беларускага, Доктару Скарыну — прысвячаю».

Яшчэ ў 1962 годзе, калі ў нас, на Беларусі, да Ф. Скарыны па сутнасці толькі спрабавалі прыглядацца і яшчэ знаходзіліся ахвотнікі засумнявацца ў гістарычнай значнасці здзейсненага ім, аддаючы перавагу, як першадрукару, Івану Фёдараву, у замежжы знайшоўся паэт, які, доўга не разважаючы, уславіў таго, хто «жадаў, каб з маёй зямлі пайшло брацтва людское» і стаў сапраўдным «Калумбам у прасторах Айчыны сваёй і чужацкіх». Прытым зрабіў гэта не праз, няхай і правільныя, але публіцыстычныя развагі, а праз сутыкненне Скарыны з Чортам, выкарыстаўшы мастакоўскі прыём, так добра вядомы літаратуры.

Ва ўяўленні Я. Юхнаўца Скарына і сын свайго часу і ў многім апераджальнік яго:

**Яго падмовіла чуццё зямлі далёкай.**
**Ён думкай перакроіў усе краі вядомыя,**
**ён уторыў іхнія звычаі лёгкія,**
**а набожныя ніяк не мог прароўніць**
**да мроі собскай роднай і нястрашнай.**

Пры пэўнай сюжэтнай рыхласці, якая заўважаецца тады, калі паміж асобнымі часткамі твора (а іх усяго чатыры) не адчуваецца належнай стыкоўкі, паэма гучыць, дае належную спажыву для роздуму. І аб асветніцкім подзвігу Скарыны, і аб пасляховым асваенні Я. Юхнаўцом новага для яго жанру. Апошняе відавочна і ў «Гутарках лесасека», таксама напісаных у 1962 годзе.

На творчым рахунку Я. Юхнаўца і іншыя паэмы — «Вежы стромкія ўзвысіў замак», «Новая элегія», «Сула»...

Я. Юхнавец не цураецца і прозы. Пад псеўданімамі К. Юстапчык, Я. Юхневіч, а таксама крыптанімам «Я. Ю.» ён неаднаразова выступаў на старонках замежных беларускамоўных газет і часопісаў. Праўда, да сваіх празаічных твораў ставіцца даволі крытычна: «Яна (проза — А. М.) у мяне пакуль не апрацаваная... Хачу падрыхтаваць да друку ўспаміны пра Менск у часе вайны. Матэрыял вельмі цікавы».

І ўсё ж паэзія — на першым плане:

**Жадаю сніць я на чужыне сны,**
***а ў снох:***
**вясны зялёныя абрусы,**
**званіцы гонкія Святой Сафіі,**
**спрадвечны шум палескіх пушчаў, —**
**сны тады мяне ажывяць,**
**пацешыць сэрца леташнясць гадоў,**
**і буду знаць,**
**што мытарам убогім**
**на зямлі сваёй**
**я нарадзіўся жыць.**

*Калі сказана? Пад вершам* стаіць 1947 год. Але магло гэта напісацца і ўчора, і сёння. І заўтра можа нарадзіцца. Вяртаецца Я. Юхнавец на Беларусь.

Дарэчы, кнігай Я. Юхнаўца выдавецтва «Мастацкая літаратура» распачало новую серыю «Галасы беларускага замежжа». На падыходзе да чытача раман Кастуся Акулы «Змагарныя дарогі» і кніга апавяданняў, эсэ, публіцыстычных артыкулаў Юркі Віцьбіча «Плыве з-пад святой гары Нёман», а таксама аднатомнікі Наталлі Арсенневай «Яшчэ адна вясна» і Міхася Кавыля «Міжагнёўе».

**Алесь МАРЦІНОВІЧ.**

ЛіМ
ЧАСАПІС



# ВУЧЫЦЬ ДЗЯДЗЕЧКА З ТВЛ...




Падобна на тое, што Таварыства Вольных Літаратараў усур'ёз хоча адваяваць, так бы мовіць, некаторыя выдавецкія пазіцыі у «афіцыйнага» Саюза пісьменнікаў. Чарговы здабытак ТВЛ — дзіцячая кніжка «Павучальныя гісторыі дзядзечкі Сіда Рука» (як бачыце, аўтарства ўжо вынікае з самое назвы). Выдадзена яна супольна з берасцейскім незалежным выдавецтвам «Талер» і мае досыць салідны для цяперашняга часу наклад — 50 тысяч паасобнікаў. Адметна, што гэта першая спроба сяброў ТВЛ звароту да дзіцячай аўдыторыі. Наколькі яна ўдалая — меркаваць па чытацкім попыце.

I. X.

# НА НІВЕ ПАБРАЦІМСТВА

плённа працаваў вядомы пісьменнік Павел Кабзарэўскі (1(14) жніўня 1909 — 8 кастрычніка 1970). Ураджэнец Магілёва, ён з 1925 года жыў у Ленінградзе і там, у горадзе на Няве з'яўляўся, можна сказаць, паўнапраўным прадстаўніком Беларусі.

П. Кабзарэўскі пераклаў на рускую мову раманы П. Пестрака «Сустрэнемся на барыкадах» (1958), П. Галавача «Праз гады» (1960), А. Чарнышэвіча «Світанне» (1961), А. Асіпенкі «Вогненны азімут» (1967). Ім таксама пераўвасоблены па-руску паасобныя творы Я. Купалы, Я. Коласа, М. Багдановіча, З. Бядулі, К. Крапівы, М. Лынькова, І. Мележа, П. Панчанкі, І. Шамякіна, А. Пысіна, Я. Скрыгана і іншых беларускіх пісьменнікаў. У 1971 годзе ў Мінску выйшла кніга П. Кабзарэўскага «Говорят мои друзья». Ім складзены зборнікі і анталогіі беларускай літаратуры. А сам перакладчык заўсёды быў жаданым госцем на Беларусі.

# ДОБРА БАЧНЫ... «САТУРН»

Не, не планета Сонечнай сістэмы і не ў тэлескопе. Маецца на ўвазе той «Сатурн», які многім вядомы па мастацкіх фільмах пра разведчыкаў — акурат так называлася нямецкая разведвальная школа, што ў гады другой сусветнай вайны дзейнічала ў прыгарадзе горада Барысава, Печах. А бачным стаў «Сатурн» дзякуючы кнізе І. Барысава «пра разведку і разведчыкаў» (так значыцца на вокладцы) «Сатурн» на далоні», выпушчанай выдавецтвам «Беларусь».

Аўтар яе, думаецца, лімаўскаму чытачу знаёмы. Найперш па кнізе «Чалавек з легенды», у якой расказваецца пра Героя Савецкага Саюза і Героя Сацыялістычнай Працы Кірылу Пракопавіча Арлоўскага. У кнігах і публікацыях І. Барысава найперш прыцягвае моцная дакументальная аснова. Аўтар, як правіла, выкарыстоўвае матэрыялы, якія доўгі час праляжалі ў архівах, да многіх з якіх даследчыкі доступу не мелі.

Шмат невядомых і малавядомых фактаў і ў кнізе «Сатурн» на далоні». У якасці ілюстрацыйнага матэрыялу пададзены партрэты савецкіх разведчыкаў, некаторыя з якіх жывуць і цяпер.

Прэзентацыя выдання прайшла ў Мінску ў Доме кнігі. Перад прысутнымі выступілі рэдактар кнігі, старшы рэдактар аддзела грамадска-палітычнай літаратуры выдавецтва «Беларусь» Г. Касцялецкая, супрацоўнік прэсгрупы УКДБ Рэспублікі Беларусь па горадзе Мінску і Мінскай вобласці Г. Сенюкоў... Шкада, што не было самога аўтара: І. Барысаў у гэты час знаходзіўся ў шпіталі.

Паэзія

Рыгор БАРАДУЛІН



# ВЯЛЬМОЖНЫЯ, НЕЗАЛЕЖНЫЯ...

## СУЦЕХА

Бо вы, людзі разумныя, ахвоча цярпіце неразумных; цярпіце, калі хто панявольвае вас, калі хто вас аб'ядае, калі хто абірае вас, калі хто вас за нікчэмнасць мае, калі хто б'е вас па твары.

*Другое пасланне Апостала Паўла да карынфенаў 11: 19, 20*

Няўжо цярпець, як і цярпелі мы,
Ці толькі нам стае на ціхасць моцы,
Няўжо нямыты прыхадзень нямы
Чысцейшы, чымся нашы красамоўцы.

Ці ў роднай хаце рубленай з вякоў
Мы будзем глухнуць, быццам кватаранты,
Каб злыдні мелі нас за дзівакоў,
Хвалілі люта: люд вы талерантны!

Каб пастка пашчу шчэрыла шырэй,
Каб рукі ў кайданах былі абедзьве,
Каб абіралі нас яшчэ шчырэй,
Нам пакідалі воўчае аб'еддзе.

Каб зброд, няварты нашае гразі,
Меў за нікчэмнасць нас
Ды біў па твары,
Каб здзірца быў у рызе,
Мы — ў рыззі,
Каб мы прасілі ў ката самі кары.

Здаецца, род наш
Радавод вядзе
З таго,
Калі Гасподзь яшчэ ў лагодзе
Прымервагаў, каго сяліць і дзе,
Суцешыў крывічоў:
Трывай, Народзе!

Пераганяем мы бяду ў хадзе.
Калі ж Гасподзь трываць нам скажа:
Годзе?!

## САМ-НАСАМ

I

Крумкач вячэрае на бервяне.
У яліны пер'е тапырыцца.
Беларусь,
Як удава па вайне, —
Ні апірышча, ні прыпірышча.

II

Ужо за парогам
Мы, як за мяжой,
І ў хаце сваёй —
У запечны.
Сваю не данёсшы,
Паклажай чужой
Дагодліва горбім плечы.
Не гэтак сумленню,
Як мулка спіне.
Мы дома,
Як у чужой труне.

III

Хто мы?
Адказаць павінны самі,
Каб, і адышоўшы на клады,
Прашумець дажджамі,
Як лясамі.
Хай за намі ўслед
Растуць гады!

## ТОЛЬКІ

І мы не жалезныя,
Мы з тлену й надзеі,
І мы не глухія,
Ты, вораг, нам не крычы!
Мы вяльможныя,
Мы незалежныя,

Нам ярмо не надзенуць,
Мы — крывічы!

Мы ў жаданай залежнасці
Толькі ад Госпада Бога.
Беларускае неба з пагардай
Пазірае на чужакоў.
З непазбежнасці,
З рознасцежнасці
Пачатак брала дарога,
Што ў вякі паведзе нас
На векі вякоў!

З усходу й захаду, хіжыя,
Нас цяснілі суседзі,
Ім хацелася нашай,
Ім сваёй не хапала зямлі.
І ў катоўнях мы выжылі!
Беларусь
Маладзіца,
Спадарыня,
Лэдзі,
За Тваю незалежнасць
На змаганне
Адданых пашлі!

## КАЛІНОВЕЦ

Як п'е гарэлку бедна басота,
Згадаўшы чуллівасці грэшны смак,
Спявае маркотна Зянон Пазняк
Караткевічаву песню любімую.
Ажно засаромелася сябе пяшчота:
І я самоту слязьмі не вымыю.

Здалося,
Раніцні Каліноўскі
Марыську прымроіў,
Адчуўшы скон.
Зянон —
Беларуссю прыснёны сон,
Што зноў пачувае сябе
Дзяржаваю.
Хутчэй з плячэй
Чужыя абноскі,
Няколка йсці маладой атаваю.

Тварыў бы, думаў
Сабе ў асалоду
Паэта, мысліўца, мастак,
Аднак
Пазняк —
Як той перазяблы грак
Сагрэецца баразной узаранаю.
Пан Бог
Паслаў каліноўца народу
Вярнуць душу
І Айчыну забраную.

## КУРАПАТЫ

Свечка пацепвае
Павекам успалымнелым —
У гарачае вока запала
Парушынка лямпанту.
Крыж паўтарае
Паставу Хрыста.
Старыя хіляцца
Абнылымі каласамі,
З якіх
Павыдзяўбаныя зярняты...

## ПОЛАЦКІ МЕНТАЛІТЭТ

*Уладзіміру АРЛОВУ*

Ёсць полацкі менталітэт —
Ад Еўфрасінні, ад Скарыны,
Ад той абрынутай адрыны,
Дзе сон шукаў свой сонны след.

Ён цемры пазычаў святла,
Каб стала вечнасцю імгненне,
Ляцеў вышэй жаўрук здзіўлення,
Люцела рупнасці пчала.

Ад Полацка пачаўся свет.
Пра небачолых кажам:
З нашых!
Ёсць Беларусь,
А гэта значыць —
Ёсць полацкі менталітэт!

## ДЫК ЯК?

Спісякваў нам спіны
Варшаўскі бізун,
Спасажваў з роднае хаты
Маскоўскі бот,
Узважваў наш лямант
Берлінскі штых.
Ды нас ад вятроў затуляў
Лясун,
Дрыжэў за нас на марозе
Чарот.
Мы з тых,
Хто на зорах калыша
Свой род.

Плечы горбілі нам
Абраз хатулі,
Гнеў свой насілі мы
У рэзгінах ды ў бярэмцах.
Мы жылі, мы былі
Пры паляках, расейцах,
Пры немцах.
Маўчалі ў кулак.

Дык як,
Адвіхурыўшыся ў завірусе,
Стаць нам
Гаспадарамі свае зямлі,
Беларусамі ў Беларусі?
Ці забаляць, ці засвярбяць калі
Сціснутыя ў кулаку мазалі?

## 8 ВЕРАСНЯ 1514 ГОДА

Як гаварыцьмем з рознаю поршаю
З той,
Што сябе называе вялікаю,
Мы даказалі
У бітве пад Воршаю
Не толькі мечам,
Не толькі пікаю.

Мы даказалі
Воляй крывіцкаю,
Канстанціна Астрожскага
Геніем.
І выжлам прадажным
Дух наш не выцкаваць.
Мы будзем жывыя
І стаўшы ценямі!

## СЛУЦКІМ ПАЎСТАНЦАМ

Пакутнікаў хапала нацы,
Змаганцаў не было каб густа.
Паўстанцы слуцкія!
Выгнанцамі
Акрыла вас жалобы хуста.

Як і ў часіны Каліноўскага,
Паўстала шляхта й аратаі.
Анёлы —
Вої войска боскага
Хацелі быць у вас братамі.

Вы не чакалі раю скорага —
Да чужакоў не мелі веры.
Вам з двух бакоў хапала ворага.
Вам адчынялі ў пекла дзверы.

Паўстанцы!
Вы ўвайшлі ў гісторыю,
Трывацьмеце ў ёй ныне й прысна.
Свая зямля была апораю —
У сведках Семежава й Вызна.

Палеглі вы,
Ды жыць працягвае
Гнеў,
Незатушаны гадамі.
Дасюль ваш спеў
Гучыць прысягаю:
— Мы выйдзем шчыльнымі радамі...

## БЕЛАРУСАМ У ВЫРАІ

З дому гналі маскоўшчыны сіверы
Пры цары,
Род наш звесці хацелі на ветах
Пры саветах.
Нам турму муравалі
Чырвоныя муляры
Ў радасных бальшавіцкіх дэкрэтах.

Кралі й бралі нашае што маглі
Маскалі,
Смакавалі з пагардай прысмакі
Палякі.
У каго дык гулі
Апалела гулі,
Мы з хаўтураў брылі, небаракі.

Мы сплаўляем вякі,
Асначы крывічы,
Мы не знікнем на радасць чужынцам.
І завем,
З выраю думкамі летучы,
Млечны Шлях
Беларускім Гасцінцам, —
Да яго не дацягнуцца каты,
Ім вяртаюцца душы дахаты...

## ТАБЕ

Скінь кляйно варожых трантаў,
Хай твой стан не абражае.
Мова ўслед ідзе чужая,
Як дзіця ад акупантаў, —
Хоць тваё смактала грудзі,
Вырасла з душой сытою.
Аднакрэўцы сіратою
Выбіцца нялёгка ў людзі.

Ты вякуеш удавою,
Па чужых блукаеш хатах,
Пакаёўкаю у багатых —
Ні пакою, ні спакою.

А сыны?
Яны зацята
Чубяцца паміж сабою.
Сэрца не шчыміць журбою,
Што гіне ў матулі хата.

Як сваю знябудзеш сілу,
Свет твайго не ўчуе кроку,
Шашаль помслівы папроку
Сточыць сцены небасхілу.

## БЗВ

БЗВ — Бог Заклікаў Вас,
Беларускага Войска воі.
БЗВ — так чытае час:
Беларусь Заваюе Волю!

БЗВ — Быць Заўжды Вякам
Даўжнікамі ў крывіцкай славы.
Нашай не аддамо чужакам
Ні сцяжыны, ані канавы.

Хросным бацькам
Цан Грунвальд быў,
Пані Ворша маткаю хроснай.
Беларускага Войска парыў
Ткаўся на высакосных кроснах.

У Айчыны світае чало.
Досыць нас вадзілі па хлудзе.
Беларускае Войска было.
Беларускае Войска будзе!

На жалезны характар
Руды
Мае наша зямля святая.
Ведаем,
Дзе віры, дзе брады.
БЗВ — Бой Змаганцаў Вітае!

## МУСІЦЬ!

Цар-звон,
Што голас свой не чуў ніколі,
І цар-гармата,
Што ядра не праглынула,
Народ вялікі,
Што не меў маленькай волі,
Двор непрылюджаны,
Дзе ні кала, ні шула...

Хто марнай марай цараваць
Жыве,
Той мусіць гжць цара
У галаве!

## ПАШТОЎКА

Праз вякі будзе заўтрам
Чорнае ўчора.
Жыццё скранулася ў красавіку.
Не знікнуць нікуды ад гора
Ні няўклюдствам, ні спрытам.
Нікому не быць ад бяды
Ні ўбаку,
Ні збоку.
Бо жаху —
Бацьку жуды
Няма ні ўседу, ні ўлогу.
Гарачым графітам
З чацвёртага блоку
Што напісаць
І куды?

Толькі на неба.
Богу.

## БАЮСЯ

Тэстамент напісаць хачу, але баюся
Да часу разбудзіць сваю бяду.
Пакуль жыву, датуль малюся Беларусі,
І да сваіх з малітвай гэтай адыду.

З сабою Беларусь насіў па белым свеце.
Дзе толькі я ступаў, там і яна была.
Нашчадак крывічоў, я меў адно на мэце—
Як кажуць, адбяліць і слова дабяла.

Каб ручніком кужэльным выцер вочы
Наступнік мой і позіркам звясneў.
Мне маладзілі дзень і раніцнілі ночы
Крывіцкая мілосць,
Крывіцкі рупны гнеў.

Калі адчую,
Што прыйшло маё бяссілле,
Благаць пачну, як самай боскай міласці,
Каб і вятры па-беларуску галасілі,
Нудзіліся па-беларуску чараты.

Ідзе мой цень лясны замроенай травою,
Сцяжына з дому і дамоў вядзе адна.
Не томіцца трымаць зялёнай галавою
Вушацкі небасхіл
Вушацкая сасна.

Проза

Іван БАСЮК

# МІКІТКАВА АДРАДЖЭННЕ

АПАВЯДАННЕ

Стары школьны настаўнік Язэп Мільгун каторы ўжо час карпее над дамашнімі сачыненнямі сваіх вучняў. Мільгун даўно ўжо на пенсіі, але школка вясковая, у глухамані, настаўнікаў няма — вось і працуе які год ён і пасля выхаду на спакой. Мільгун не любіць вучнёўскіх сачыненняў, бо для яго самога тут многа цьмянага і заблытанага. Вось, скажам, школьны дыктант, правярацъ яго — адна любата: столькі граматычных, столькі сінтаксічных памылак — адзнака такая, другая колькасць памылак ці іншыя іх суадносіны — мяняецца і адзнака, усё выверана часам, проста і надзейна. А тут вучнёўскае сачыненне... Які змест добры, які выдатны, а які толькі пасрэдны? Якімі паказчыкамі гэта вызначыць? Няма ў прыродзе такіх паказчыкаў. «А калі няма дакладных паказчыкаў, — кажа сам сабе стары настаўнік Мільгун, — то не можа быць і справядлівых адзнак». Вось і зараз чытае ён сачыненне свайго вучня Мікіткі і, чым больш паглыбляецца ў чытанне, тым больш хмурнее. Мікітка піша проста, як набяжыць, але ж ці могуць гэтыя шчырыя хваляванні вясковага хлапчука быць залічаны школьным сачыненнем?

Мікітка піша, як на духу: «Калі я прынёс у дзённіку тры ўпоруч двойкі, бацька меў са мною гутарку, сляды якой я ўжо нашу другі тыдзень. Выведаўшы, што зададзена напісаць сачыненне на тэму адраджэння беларускага сяла, бацька катэгарычна заявіў — гэта верная чацвёртая двойка, бо мне, дурню, аніяк не зразумець такіх высокіх духоўных плыняў. Мама таксама ўступіла ў спрэчку і кінула сваю камянюку ў бок бацькі: «Калі ты такі разумны, дык дапамажы дзіцяці, як усе нармальныя бацькі гэта робяць...»

Стары Мільгун незадаволена засоп сабе пад нос, бо адчуваў — якое ж гэта дамашняе сачыненне? Бацька сказаў... Маці сказала... Так, ён радзіў вучням абавязкова пачынаць сачыненне з кароткага апісання літаратурных ці гістарычных крыніц, якія выкарыстаны пры яго напісанні. Але перапалка паміж бацькамі вучня — якая ж гэта літаратурная крыніца?

Мільгун уздыхнуў сваім невясёлым думкам і прадоўжыў няспешліва чытаць далей мікіткава сачыненне:

«...бацька ляпнуў амаль мне ў твар нейкую таўшчэзную кнігу і з'едліва зазначыў: «Калі ў чалавека няма свайго розуму, ён карыстаецца чужым. Я ў кніжцы адзначыў месцы, дзе гаворыцца пра старую беларускую вёску. Ты старанна спішы адтуль без памылак ды дадай колькі там сказаў свайго разумення прачытанага. Але многа не разважай, бо я наўперад ведаю, што з тваіх разважанняў атрымаецца...» Я раскрыў кніжку і знайшоў там ачэрчаныя сінім бацькавым алоўкам патрэбныя старонкі. Але як пачаць пісаць пра тое беларускае адраджэнне? Я зноў сунуўся да бацькі — той параіў больш думаць самому і менш слухаць парад мамы. Прычым тут мама? Мама ж — не беларускае адраджэнне...

Пачаў чытаць бацькаву кнігу. Там падрабязна апісвалася беларуская сялянская хата мінулага стагоддзя. Аўтар кнігі як бы заводзіў чытача ў вясковую хаціну і апавядаў — што там, як і да чаго. У хаце было цёмна, дымна і вільготна. Галоўная аздоба хаты — вялізная печ каля парога, на якой грэюцца старыя і дзеці. Паўз сцены — шырокія і тоўстыя лавы з дубовых ці сасновых дошак. Перад лавай — доўгі і вузкі стол... Я паспрабаваў уявіць сабе — калі гэта ўсё адрадзіць і вярнуць у нашу хату, выкінуць мэблю, скласці цагляную вялізную печ, агарадзіць сцены шырачэннымі дубовымі лавамі... Было б нядрэнна: і паскакаць ёсць дзе, і пагрэцца на цёплай печы... Значыць, адраджаць старое карысна і патрэбна. Чытаю далей. У кнізе сказана, што перыяд дзяцінства беларускага селяніна можна апісаць некалькімі словамі. Да дзесяці гадоў ён самапасам у адной кашулі і босы. Гэта, на маю думку, таксама карысна адрадзіць. А то мая маленькая сястрычка Юлька колькі ўжо слёз праліла, а яе то ў садок, то ў нулявы клас, а малая крыкам крычыць, ісці з хаты не хоча...»

«От куды занесла Мікітку, — хмурыцца стары настаўнік. — Бачыш, сястрычку Юльку пашкадаваў, жаласлівы які, а не прыкмеціў, як да дзесяці гадкоў вясковы хлопчык невылазна ўсю зіму сядзеў на печы, бо быў у адной кашулі, ні адзежы, ні абутку, як голым на вуліцу выскачыш? А Мікітка — адраджаць...»

Стары Мільгун пакрактаў ад лёгкасці падыходаў да жыцця свайго вучня і зноў уталопіўся ў ягоны сшытак:

«...калі мінае дзесяць гадоў жыцця, на хлапца адзявалі шату сталасці — суконную сярмягу і лапці з ліпавай кары. Хлапец памагаў маці гадаваць малое дзіця, а бацьку — пасвіць раніцою вала, ганяць на начлег коней, грэбці сена, бо з дванаццаці гадоў кожны хлапчук лічыўся як рабочая душа і значыўся ў інвентары. «Гэта таксама ўсё нядрэнна, — аналізаваў праблему Мікітка. — Уяўляю, як у суконнай сярмязе, у ліпавых лапцях з'явіўся б я ў школе. Вось рогату было б! А калі б я яшчэ дадаў, што імя маё запісана ў нейкім інвентары...»

«От блазан, — засмуціўся стары Мільгун. — Каб ты быў крыху разумнейшым і ведаў, што азначае быць запісаным у памешчыцкі інвентар як рабочая душа, то аніяк гэтаму не радаваўся б. Або ў школку ў сярмязе, у ліпавых лапцях.., — злуецца стары настаўнік, а затым суцяшае сябе: — Нічога, падрасце — паразумнее...»

Супакоўшы сябе такімі разважаннямі і ўсе надзеі ўсклаўшы на час, стары Мільгун зноў заглыбіўся ў мікіткавае сачыненне.

«...з пятнаццаці ці восемнаццаці гадоў пачынаецца ў маладога селяніна перыяд сталасці — плечы яго ўзмацнелі, рукі яго прывыклі да плуга, касы і сякеры. Гэта таксама добра, — зазначае Мікітка. — Бо брыдка глядзець на многіх маіх сябрукоў: рукі танюткія, плюгавыя, грудзі — як дошкі, толькі жываты сытыя, напхнутыя тлушчам, нібы футбольныя мячы. А раней? Сякера, плуг, каса — рукі з адных біцэпсаў, усё цела мускуламі, нібыта вяроўкамі, перавіта, паспрабуй, задзярыся з такім! Во якія дужыя былі людзі! Адсюль — няхай зноў адраджаюцца каса і сякера, бо галоўнае — быць дужым і спрытным, нікога ні ў школе, ні ў вёсцы не баяцца. Калі спатрэбіцца: раз — правай, два — левай рукой і ўсе твае недругі валяюцца па зямлі, а ты — герой, і ўсе ў школе на цыбе, дужага і смелага, глядзяць з захапленнем. Значыцца, адно разумнае выйсце — неадкладна адраджаць сякеру, плуг і касу! Далей у кніжцы сказана: «Мужчына пасля шлюбу становіцца адразу самастойным чалавекам. Цяжкая праца, сціплая яда і надта ж прыцягальнае хмельнае пітво — вось увесь змест яго жыцця. Панскі двор, блізкае мястэчка, царква і карчма — вось адзіныя пункты, вакол якіх душой і целам кружыць ён увесь свой век...»

«Адкуль жа гэты жвавы Мікітка так трапна спісвае? — думаецца старому настаўніку. — Нешта да болю знаёмае, а вось прыпомніць не магу...»

Так і не ўспомніўшы, з якой кніжкі «перадзірае» Мікітка, стары настаўнік зноў заглыбіўся ў вучнёўскі сшытак:

«...жывучы сёння і толькі для сёння, беларускі селянін часта паўтарае прымаўку: «Дзень наш — век наш» і жыве з дзіўнай безагляднасцю на заўтра. Забыўшы пра вясновы голад, ледзь толькі дачакаўшыся больш-менш ураджайнай восені, шчодра спраўляе дзяды, зернем з працэнтамі аплачвае даўгі арандатару за выпітую гарэлку, потым п'е датуль, пакуль зноў нічога не застанецца, і тады ён просіць у пана ці арандатара новую пазыку пад будучы ўраджай...»

«І што з гэтага возьме намер адраджаць мікіткаў розум?» — смяецца сам сабе стары настаўнік і, зняўшы з носа старэнькія акуляры са страдаўнімі пачапкамі за вушы, адхіляецца ад стала, каб хвілінку адпачыць ад мікіткавых дасціпных разважанняў. Стары Мільгун нават хіхікнуў сабе ў вусы, але, прыкмеціўшы здзіўлены позірк сваёй старой з кухні — ці не звар'яцеў Язэп пад старасць? — хуценька прыбраў з вуснаў усмешку і з напускной сур'ёзнасцю прадоўжыў чытанне:

«...ну, тут адраджаць няма чаго, — з глыбокім веданнем існасці зазначыў Мікітка. — Тут усё ў парадку! У нас і сёння п'юць усе і памногу: чарнобыльцы — амываючы пякучай гарэлкай напатkаўшую іх бяду, механізатары — з устатку, пастухі — з вільгаці, даяркі — ад недасыпання, канторскія — бо начальства п'е, пенсіянеры — ад крушэння старых ідэалаў, моладзь — бо ўсе на свеце п'юць. Адно трэба адрадзіць — пана і арандатара, а ў цэнтры вёскі — карчму, бо ўсё іншае дрэннае даўно ёсць і ў празмерным дастатку. Навошта пана і арандатара? А які ж сёння дурань дасць пазыку, калі селянін ушчэнт прап'еца? Пан з арандатарам не ведаюць слова «алкаголік», яны ж і дадуць нашым п'яніцам пазыку. Далей у кніжцы дакладна распісана — якія работы і калі трэба спраўляць: на святога Барталамея пачынаць асеннюю сяўбу, на святога Мікалая — сплачваць падаткі... Усё гэта таксама патрэбна адрадзіць, бо, як кажа мой бацька, учора сеялі і ўбіралі па званку з раёна, а сёння яшчэ лепш — калі саляркі падвязуць...»

Стары Мільгун аж кракатнуў ад задавальнення: ай ды Мікітка, уеў у самы яблык са злашчаснаю саляркаю. З кухні зноў выглянула старая Мільгуніха: «Ты чагосьці крэкчаш у адзіноце, Язэпка? Ці не захварэў на галаву, часам?»

— От корпаешся на кухні, дык і корпайся, — незадаволена адказаў стары настаўнік, якога абурала — як гэта людзі не разумеюць: чытаць вучнёўскія сачыненні — як і размаўляць з дзецьмі, а якая размова, калі ва ўласнай хаце слова нельга сказаць? Але ж не трэба бавіць часу і заканчваць з Мікіткавым сачыненнем, бо во які стос вучнёўскіх сшыткаў чакаў сваёй чаргі на стале ў настаўніка.

«...за перыядам сталасці селяніна пачынаецца зіма яго жыцця: паступова горбіцца плечы, звешваецца галава, моршчыцца твар, пачынаюць трэсціся рукі. Некалі маладыя сяляне пераўтвараюцца ў дзеда і бабу, якія пачынаюць адчуваць сябе лішнім цяжарам у хаце. Выйсце для іх добра вядомае: яны надзяваюць на плечы па дзве торбы, бяруць у рукі сукаватыя кіі і, спяваючы пацеры, пускаюцца ў свет, валэндаючыся ад вёскі да вёскі, ад царквы да царквы, просячы ў добрых людзей які грош ці кавалак хлеба. І людзі падаюць, бо ва ўсім славянскім свеце жабраванне ў старасці ўвайшло ў звычай і ніхто не папракае ні саміх жабракоў, ні іх дзяцей, якія адпусцілі на валацужніцтва нямоглых бацькоў. Так беларускі селянін пад чыімсьці плотам і заканчваў сваё ціхае жыццё. Дзеці, па страдаўнім звычаі, паплачуць па памерлых бацьках, пахаваюць іх на вясковых могілках, праз год пасля смерці паставяць па ім драўляныя самаробныя крыжы, справяць памінкі, нап'юцца, паўздыхаюць, памоляцца і... на тым і забудуцца пра нябожчыкаў. І пайшоў круг другі, і зноў усё спачатку...

Вось, прыкладна так апісаў ранейшае жыццё беларускага селяніна Уладзіслаў Сыракомля. Што ж тут адраджаць? І чаму аб адраджэнні мінулага так напорыста пякуцца зараз тэлебачанне, прэса і радыё? І барадатыя разумныя дзядзькі з парламенту? З мінулага ўсё благое намі ўжо ўзята, а добрага там і не было ніколі — што ж адраджаць? Можа, не адраджаць, а нараджаць трэба? Так чаму аб гэтым адкрыта не сказаць людзям?

Адчуваю — нешта пішацца не тое, а што патрэбна пісаць — не ведаю, заблытаўся, таму і заканчваю сваё дамашняе сачыненне. Канец.

Дамашняе сачыненне на тэму аб неабходнасці адраджэння беларускай вёскі вучня Мікіты Дземчука.

P. S. Язэп Ільіч! Не стаўце мне чацвёртай двойкі, бо тады бацька прыпіша мне такое адраджэнне, якога яшчэ свет не бачыў».

Стары настаўнік вінавата ўсміхнуўся і пацягнуўся за чырвоным алоўкам, каб паставіць адзнаку і перайсці да чарговага вучнёўскага сшытка — на стале іх высіўся цэлы стос...

*г. Гродна.*

ЛіМ
ЧАСАПІС



# АДДАНАСЦЬ РОДНАЙ МОВЕ




Больш за дзесяць гадоў працуе намеснікам дырэктара па вучэбнай рабоце Скідзельскага ПТВ-199 Алена Міхайлаўна Салей. Адначасова выкладае беларускую мову і літаратуру. А дагэтуль працавала ў школе, мае стаж амаль трыццаць гадоў. А. Салей прымае актыўны ўдзел у жыцці вучылішча. Па яе ініцыятыве быў створаны музей паэта-земляка Міхася Васілька.

Тэкст і фота І. БАРЫСАВА

# ПАД ЗАСЛОНУ — «ДЗЕД І ЖОРАЎ»

Спектаклем па казцы «Дзед і Жораў» Віталя Вольскага завяршыў свой чарговы тэатральны сезон Брэсцкі тэатр лялек. А шчыраваць над творам, які ўжо стаў «залатым» фондам беларускага мастацтва, узяліся нашыя ўкраінскія калегі — рэжысёр Зміцер Нуянзін і мастак Мікола Данько. Музыку да пастаноўкі пісаў берасцеец Анатоль Багданаў і нарэшце на сцэне ўвасаблялі ўсе аўтарскія задумы Тамара Тэвасян (Баба, Жораў), Уладзімір Зайцаў (Дзед), Іван Герасевіч (Поп, Пан) і Юры Цесля (Войт і інш.). Дэкарацыя нагадвала якраз адметнае берасцейскае падвор'е, інтрыга трымалася на жоравым падарунку, а стол у панскім палацы быў заслany жоўта-блакітным абрусам...

І. Х.

# А НАЗВАЛІ — «SONORUS»

Гожа (мо за якім выключэннем) праходзяць канцэрты ў Камернай зале сталічнай філармоніі, што на Залатой Горцы. Асабліва гасцінна прымаюць чуйныя да музыкі касцельныя сцены чалавечы голас. І калі гучыць сола, і калі голас чалавечы ўтварае адмысловае харавое суквецце. Мінскі абласны камерны хор зноў натхнёна й прыгожа спяваў у гэтых сценах. Разам са сваім мастацкім кіраўніком і дырыжорам Аляксеем Шутам гэты ўжо досыць слынны маладзечанскі калектыў (лаўрэат І Міжнароднага фестывалю «Магутны Божа», запрашэнне на Усяпольскі фестываль духоўнай музыкі «Сакрасонг» і яркае выступленне там, пасяховыя гастролі за мяжой, новыя запрашэнні) адзначаў у Мінску напрыканцы сезона... свае другія ўгодкі. Прычым, ужо не як «безыменнае дзіця»: пасля доўгіх абгаварэнняў ды ваганняў А. Шут даў музычнаму свайму дзіцяці лацінскае імя: «Sonorus», што значыць «гучны».

У праграме, якую каменціравала музыказнаўца Надзея Шут, быў маштабны твор — Рэквіем Л. Керубіні (партыя фартэпіяна — С. Кудрын), а таксама дзівосна нязвыклая па тэмбравым спалучэнні музыка для хору і віяланчэлі. Разам з вядомым музыкантам Алегам Алоўнікавым «Sonorus» выканаў тры хоры А. Арэнскага на вершы А. Фета, нядаўна створаную паэму-рэквіем Э. Казачкова «Яма» на вершы М. Ясеня ды «Stabat Mater» шведскага кампазітара К. Ністэда. Незвычайны дуэт хору ды віяланчэлі выканаў «на біс» чароўную «Калыханку» Д. Гершвіна з оперы «Поргі і Бэс».

На канцэрце маладога хору бракавала, бадай што... аркестра. Выдатны піяніст Сяргей Кудрын усё ж не замяняў сабою сімфанічны калектыў, якога вымагае партытура Рэквіема. Дык мо ў новым сезоне мастацкае кіраўніцтва філармоніі паспрыяе творчаму супрацоўніцтву хору «Sonorus», скажам, з Дзяржаўным камерным аркестрам Беларусі? Можа быць плённы мастацкі вопыт.

С. Б.

# НЯЗМУШАНА І ШЧЫРА

піша адна з самых маладых беларускіх паэтэс Іна Снарская. Ураджэнка старадаўняга Полацка, яна скончыла Наваполацкі політэхнічны інстытут, цяпер жыве і працуе на Палтаўшчыне. Ды сувязі з Радзімай не парывае. Друкавалася ў часопісах «Маладосць», «Беларусь», «Першацвет», газетах. А цяпер выдала сваю першую кнігу «Пацеркі», што папоўніла «Бібліятэку часопіса «Маладосць».

***Тыдзень з 15 па 21 чэрвеня 1994 г. увойдзе ў гісторыю нашай культуры як час Першага на Беларусі міжнароднага фестывалю фальклору — шырокамаштабнага, яскравага і надзвычай светлага ў сваёй шчырасці свята народнага мастацтва. Свята, што здолела паказаць яго ўдзельнікам і гасцям, якія моцныя і жывыя культурныя карані мае беларуская нацыя, якім неацэнным, сапраўды сусветнага значэння мастацкім скарбам яна валодае, які магутны яе творчы патэнцыял.***

# ФЕСТЫВАЛЬ ПРАЙШОЎ. НЯХАЙ ЖЫВЕ ФЕСТЫВАЛЬ?

РОЗДУМ ПАСЛЯ ПАДЗЕІ

Каля 1300 удзельнікаў з усіх рэгіёнаў Беларусі, а таксама блізкага (Расія, Украіна) і далёкага (Нідэрланды, Фінляндыя, Польшча) замежжа. Больш за 80 разнастайных цікавых канцэртных праграм, з якімі ўдзельнікі фестывалю выступілі *на шматлікіх пляцоўках у Пінску, а таксама* ў Мінску, гарадах і вёсках Брэсцкай вобласці. Шчырая гасціннасць жыхароў пінскай зямлі і ўдзячнасць гасцей, урачыстыя шэсці, прэс-канферэнцыі, вялікія штовячэрнія канцэрты, якія збіралі сотні і сотні добразычлівых, чулых слухачоў і гледачоў і доўжыліся да глыбокай ночы. Стыхійна ўтвораныя гурты спевакоў, танцораў і музыкаў, новыя знаёмствы, яркія ўражанні, магчымасць і другіх паглядзець, і сябе паказаць. Маляўнічасць брэсцкага *рэгіянальнага свята* «Палескі карагод» (своеасаблівага фестывалю ў фестывалі), маладзёжныя вечарыны. Люстэркавая, высакародная ў сваёй няспешнасці Піна, мора зеляніны, святочнае ўбранне Пінска — старажытнай палескай сталіцы, добрыя ўсмешкі, лагодныя, поўныя цікавасці вочы, захапляючыя сваёй прыгажосцю нацыянальныя строі. Арыгінальныя выстаўкі. Шматлікія тэлекамеры, магнітафоны, фотаапараты... І над усім гэтым — народныя песні, танцы, гульні, карагоды, інструментальная музыка без канца і стомы. Такім запомніўся гэты фестываль з яго непаўторнай атмасферай натуральнай разняволенасці — адначасова ўсеабдымнай і прыгожай.

Усё большы час аддзяляе нас ад гэтай падзеі, якую мы, арганізатары фестывалю, чакалі з хваляваннем і падрыхтоўцы якой аддалі столькі фізічных і душэўных сіл, прафесійных ведаў, *арганізацыйнага вопыту.* У *светлыя* і *цёплыя* ўспаміны ператварылася складаная поліфанія дзён фестывальных, нібыта забылася напружанне падрыхтоўчага часу, сцішылася водгулле пасляфестывальных тэле- і радыёперадач, газетных публікацый. Сёння Першы Міжнародны фестываль фальклору на Беларусі — ужо факт нашай гісторыі. Самы час спакойна і ўзважана асэнсаваць яго значэнне для нашай культуры, зрабіць некаторыя высновы, здабыць пэўныя ўрокі.

Як адзін з арганізатараў фестывалю, праз рукі і сэрца якога (хай прабачыць мне чытач гэты «высокі стыль») прайшлі ўсе асноўныя яго творчыя моманты ад выпрацоўкі канцэпцыі да канцэрта закрыцця, паспрабую закрануць некаторыя пытанні, якія фестываль нарадзіў, але на якія, на мой погляд, пакуль што не даў адназначных адказаў.

Першае пытанне — з разраду параўнаўча простых: у чым сэнс правядзення такога фестывалю? І адказ даволі ясны — у форме масавага свята зрабіць шырокі паказ таго лепшага, што ёсць у нашым фальклорным мастацтве, буйнамаштабнай акцыяй прыцягнуць увагу беларускай грамадскасці да той плыні мастацтва, якая ў найбольшай ступені адлюстроўвае культурную самабытнасць кожнага народа, выклікаць пачуццё нацыянальнай годнасці, гонару за свой народ і тым заявіць свету пра беларусаў як пра народ, які не толькі мае, але і ўсведамляе і шануе сваю культурную непаўторнасць — што, як вядома, з'яўляецца адной з найважнейшых прыкмет цывілізаванасці сучаснай дзяржавы ўвогуле. Ці дасягнуў фестываль гэтай высокай мэты? У цэлым, думаецца, так. Прынамсі, водгукі ўдзельнікаў фестывалю — ад афіцыйных прадстаўнікоў *замежных краін да так званых* простых гледачоў Пінска — сведчаць менавіта пра гэта, такую ж ацэнку даюць і сродкі масавай інфармацыі.

Але тут пачынае разгортвацца новае кола пытанняў: што мы сёння лічым лепшым? якія яго крытэрыі? хто вызначае гэта лепшае? што ўвогуле лічыць тут дасягненнем?

Два моманты можна адзначыць як прынцыпова станоўчыя. Адзін — гэта ўдзел у падрыхтоўцы фестывалю *групы навуковых* кансультантаў, найважнейшым вынікам дзейнасці якой стала арыентацыя свята на сапраўдны (аўтэнтычны) фальклор і яго шырокае на ім прадстаўніцтва. Другі момант — факт, так бы мовіць, практычнай падтрымкі на ўзроўні дзяржаўнай культурнай палітыкі аўтэнтычнага фальклору як сусветнай мастацкай каштоўнасці сучаснай беларускай культуры. Узаемапаразуменне гэтых дзвюх уплывовых сіл прывяло да прыняцця пэўнай канцэпцыі фестывалю, у аснову *якой быў пакладзены прынцып* трохзвеннай структуры фальклорнага мастацтва на Беларусі — фальклор аўтэнтычны, фальклор у аматарскіх калектывах (арганізаваная мастацкая самадзейнасць) і ў калектывах прафесійных. У адпаведнасці з гэтай канцэпцыяй фальклорнае мастацтва на фестывалі й было прадстаўлена аўтэнтычнымі, а таксама аматарскімі ды прафесійнымі выканаўцамі (гуртамі, калектывамі, ансамблямі, салістамі). Кожнаму з гэтых відаў мастацтва быў *прадастаўлены асобны дзень* (аўтэнтычнаму і аматарскаму — у Пінску, прафесійнаму — у Мінску), кожны (асабліва два першыя) падаваўся досыць прадстаўніча.



Без перабольшання можна сказаць, што непаўторнае аблічча і глыбокі змест фестывалю надаў шырокі паказ на ім менавіта аўтэнтычнага фальклору. На працягу аднаго дня 28 пеўчых і танцавальных гуртоў, а таксама асобныя выканаўцы — спевакі й музыкі — з усіх шасці музычна-этнаграфічных *рэгіёнаў Беларусі* (Заходняга і Усходняга Палесся, Паазер'я, Панямоння, Падняпроўя, Цэнтральнай Беларусі) адначасова на сямі малых і агульнай вялікай пляцоўках уражвалі гледачоў і слухачоў яркай самабытнасцю і прыгажосцю свайго мастацтва. Яскравым было адкрыццё гэтага дня. Асноўнай мастацкай ідэяй тут стаўся паказ кола традыцыйных святаў вясенне-летняга перыяду, якія і цяпер бытуюць у розных рэгіёнах Беларусі. Ва ўсёй сваёй разнастайнасці і натуральнай прыгажосці разгарнуліся перад гледачом фрагменты абрадаў гукання вясны, юраўскага шэсця да крыжа і ўпрыгожвання яго, шэсця валачобнікаў, упрыгожвання бярозкі і карагод вакол яе падчас Сёмухі, ваджэння «куста» (дакладней — «кустоў»), купальскага абраду з *карагодам каля купальскага вогнішча,* скокамі праз яго і спальваннем на ачышчальным купальскім агні лялькі-вядзьмаркі, абраду дажынак.

Калі ж дадаць уражанні і ад заключнага канцэрта таго дня, можна з упэўненасцю сказаць, што аўтэнтычны фальклор «прагучаў» на фестывалі высока і годна. І не проста пацвердзіў даўно вядомую ісціну, што ён не музейны экспанат, а жывое, самабытнае мастацтва, а й *пераканаўча давёў, што ў беларускай культуры* ён зусім не экзотыка, а той развіты сучасны пласт, які складае яе гонар і адметнасць у свеце.

Здавалася б, жыць ды радавацца з такой нагоды, ладзіць фестывалі, спяваць ды весяліцца. Мо так і магло б быць, каб не безліч «праклятых пытанняў», якія ўзнікаюць адразу, як толькі гаворка заходзіць пра фальклор. Зразумела, што асвятліць усё кола праблем у межах аднаго артыкула немагчыма. Таму спынюся толькі на *адной, якая ў бліжэйшы час можа набыць* асаблівую актуальнасць — аўтэнтычны фальклор і фестывальная практыка.

Не было б аніякіх пытанняў, калі б гаворка ішла толькі пра аматарскія ды прафесійныя калектывы, якія працуюць на фальклорным матэрыяле. Сусветная практыка даўно давяла плённасць фестывальных форм для развіцця самых розных відаў прафесійнага і аматарскага мастацтва. Але зусім іншыя вынікі фестывальны вір можа мець для аўтэнтычных *форм традыцыйнай мастацкай культуры.* Надта ўжо спецыфічны, далікатны ды крохкі гэты «матэрыял», ніяк не выносіць ён абыходжання з ім «проста», а то «і яшчэ прасцей». Пры такім абыходжанні страчвае свае самабытныя рысы і ці ўвогуле знікае, ці ператвараецца ў нешта якасна іншае, што ніякага дачынення да аўтэнтыкі ўжо не мае.

Таму, калі фальклорныя фестывалі будуць ладзіцца і надалей, дык каранёвым для іх арганізатараў павінна стаць пытанне выбару шляху: ці будаваць «пацёмкінскія вёскі», і тады аўтэнтычны фальклор на такіх фестывалях будзе не больш як аздоба, вонкавае ўпрыгожванне, ці зарыентаваць фестывалі на тое, каб яны зрабіліся адным са сродкаў рэальнай падтрымкі, аднаўлення і стымулявання аўтэнтычных форм нацыянальнага фальклору. Першы шлях і ёсць той самы «просты». Ісці па ім лёгка, у многім звыкла, таму, відаць, і ходзяць часта. З *жалем мушу канстатаваць, што добра* «ўбітая, таптаная» гэтая «сцежачка» пакуль што з'яўляецца ў нас магістральнай. Рухаючыся па ёй, многія з нас здабылі звычку не працаваць, а імітаваць працу. Гэта тычыцца розных сфер нашага жыцця, у тым ліку й культуры, а ў яе абшарах, канечне ж, і фальклору.

Сёння даволі актыўна імітуецца адраджэнне аўтэнтычнага фальклору. У многіх раёнах, відаць, лічыцца, што дастаткова мець некалькі гуртоў, *якія па меры патрэбы «забяспечваюць» раённыя* «фальклорныя мерапрыемствы» і гастралююць прыкладна з адным і тым жа рэпертуарам па вёсках свайго раёна і іншых, каб мець падставу «рапартаваць» пра адраджэнне сваёй традыцыйнай культуры. Да таго ж, чым больш такіх гуртоў, тым быццам бы лепш. І нібыта не бачаць (а можа і сапраўды не бачаць?) мясцовыя работнікі культуры, як хутка такія гурты страчваюць асноўныя прыкметы аўтэнтычнасці, пераўтвараючыся ў стылізаваных «пейзанаў», а іх усё працягваюць выдаваць за аўтэнтычныя, не зважаючы на тое, што ўжо адбылася падмена і замест некалі самабытнага гурта перад намі звычайны, сярэдняй рукі калектыў мастацкай самадзейнасці, ды яшчэ з абмежаваным рэпертуарам і без патэнцый творчага росту. Добра, *калі пры гэтым захоўваюцца хаця б аўтэнтычныя* касцюмы (хоць застаецца на што паглядзець), а калі й касцюмы клубныя, аляпаватыя, карціна атрымоўваецца ўвогуле вартая жалю ды абурэння. Колькі такіх гуртоў прайшло перад намі ў час адборачных праглядаў да фестывалю — псіхалагічна і мастацкі скрыўленых, пакарабачаных, скіраваных толькі на тое, каб «спадабацца журы» і атрымаць ці то званне, ці то якую іншую адзнаку.

*Дарэчы, пра званні.*

Адна з найвялікшых недарэчнасцей сучас-

Адгалоскі

***Заўсёды з цікавасцю чытаю публікацыі дацэнта Гомельскага дзяржуніверсітэта Аляксандра Фёдаравіча Рогалева. Нядаўна на вочы трапіўся яго артыкул «Беларусь — это все-таки Русь...», змешчаны ў газеце «Мы и время» яшчэ 28 сакавіка. Гэтым разам, на жаль, не з усімі думкамі, довадамі, высновамі шаноўнага апанента я згодны.***

# БЕЛАРУСЬ — ГЭТА ЎСЁ-ТАКІ НЕ РАСІЯ

Так, А.Рогалеў піша: «Уже в силу традиционности своего названия, которому по меньшей мере десять веков, Беларусь давно занимает строго определенную «клеточку» общемировой систематики...» А ці ж з'яўляецца назва «Беларусь» такім ужо старажытным і спрадвечным нашым найменнем? Ці няма іншай, не менш старажытнай, не менш традыцыйнай нашай назвы? Такая назва — ёсць. Гэта — «Літва». Беларускімі даследчыкамі даказана, што Літва — гэта наша найбольш даўгавечная назва. Яна доўгі час (у XIII — XIX стст., а палешукі яшчэ і цяпер называюць тэрыторыю, якая размешчана на поўнач ад Іванава і Пінска Літвой) адносілася да нашай этнічнай тэрыторыі (асабліва яе заходняй часткі). Літва — такое ж блізкае і такое ж дарагое нам найменне, як і назва Беларусь.

Да нашай этнічнай тэрыторыі найменне «Белая Русь» пачало прымацоўвацца толькі ў XVI (Падзвінне) і XVII стст. (Падняпроўе). У той час тэрміны «Беларусь», «беларусы», «беларусцы» мелі рэлігійнае значэнне. Замацаванню гэтых тэрмінаў за ўсходняй часткай тэрыторыі нашай краіны клапаціліся перш за ўсё акупацыйныя ўлады Масковіі. Былі і іншыя важныя фактары. На адзін з іх указвае В.Пануцэвіч у сваёй кнізе «З гісторыі Беларусі або Крывіччыны — Літвы. Т. 1. Назовы і археалогія» (Чыкага, 1965 г.). У прыватнасці, ён адзначае, што ва ўсходніх гарадах Беларусі «былі вельмі актыўныя праваслаўныя царкоўныя брацтвы, якія ў гэтым часе тварылі на рэлігійным грунце ідэалогію «беларусцаў», прымалі актыўны ўдзел у пратэстацыйных дэлегацыях на сеймы ды трымалі лучнасць са сталіцай Белай Русі — Масквой. Вынікам іх дзейнасці й было замацоўванне назовы «Белай Русі» на тэрыторыі, дзе яны дзейнічалі. Іх работай было названне тагачаснай нашай літаратурнай мовы — «беларускай», «пісьмом беларускім».

Канчаткова ж за тэрыторыяй нашай краіны замацавалася назва Беларусь толькі ў пачатку XX ст. Але яшчэ і ў пачатку нашага стагоддзя беларускія сяляне назву Беларусь не ўспрымалі як сваю, родную, а чужую, штучную і ўрадавую (Гл., напр.: Максимов С.В. Белорусская Смоленщина с соседями // Живописная Россия. П-М, 1882. Т. 3, ч. 2. С. 439). А ў XV—XIX стст. многія беларусы (асабліва заходнія) усведамлялі і называлі сябе ліцвінамі. Праўда, усходніх беларусаў іншыя народы называлі ў XIII—XV стст. рускімі або русінамі, а ў XVI—XVII стст. беларусцамі (г.зн. падданымі ВКЛ праваслаўнай веры). Расейцы ж і ўкраінцы, напрыклад, у XV—XIX стст. і іх, г.зн. усходніх беларусаў, менавалі ліцвінамі.

Самае ж важнае, што ў афіцыйных дакументах беларускай дзяржавы Вялікага княства Літоўскага ў XVI—XVII стст. (калі былі выгнаны маскоўскія акупанты з тэрыторыі ВКЛ) тэрміны «Беларусь», «беларусы», «беларускі» фактычна не ўжываліся адносна ўсходніх земляў беларускага гаспадарства, заселеных нашымі продкамі. Усё гэта сведчыць пра тое, што назва Беларусь, Белая Русь была навязана нашай этнічнай тэрыторыі Маскоўскім гаспадарствам з палітычнымі мэтамі.

Далей А.Рогалеў палохае нас, што калі мы пойдзем па заходнееўрапейскім шляху, дзе «господствует технологическая цивилизация, среди главных особенностей которой — стремление к единообразию, ориентация на мировой рынок с его тенденциями к преодолению перегородок между странами и нациями, подталкивание истории на путь слияния стран и народов и направление их по одной модели развития, по заданным образцам, ведущим к стиранию самобытности и национальному (надэтническому) устройству мира», то «в Европе белорусское возрождение не просто заглохнет, а бесследно растворится!» З гэтым згадзіцца можна толькі часткова.

Рэч у тым, што еўрапейскія краіны аб'ядноўваюцца эканамічна і ваеннапалітычна, але ў этнічных і культурных адносінах яны імкнуцца захаваць сваю самабытнасць. Возьмем, напрыклад, Францыю. Там дзяржава робіць усё магчымае і немагчымае, каб захаваць самабытнасць, прыгажосць і багацце як французскай мовы, так і культуры. Ці ўзяць Нарвегію. Апошнія зімовыя Алімпійскія гульні, якія адбываліся ў гэтай краіне, увачавідкі паказалі, што, нягледзячы на навукова-тэхнічны прагрэс, нарвежцы прытрымліваюцца старажытных традыцый і звычаяў, адначасова падтрымліваючы мовы і культуры нацыянальных меншасцей. А цяпер параўнаем з Беларуссю. Дзвесце гадоў назад нас ведалі ў Еўропе і свеце як дзяржаўны народ, як народ слаўнага гістарычнага мінулага і багатай, самабытнай культуры. А што ад нашай краіны, народа, культуры, мовы засталося на працягу двухсотгадовага расійскага панавання? Скажам проста: мала што. Былі ўзарваны, сцёрты з твару зямлі ці часткова разбураны тысячы археалагічных, гістарычных, архітэктурных, у тым ліку культавых, помнікаў, вывезены (гэты вываз пачаўся яшчэ пры Іване Жахлівым) шматлікія мастацкія, культурныя каштоўнасці. А самае галоўнае, нас выхавалі ў духу пагарды да сваёй мовы і культуры, з добрай часткі народа зрабілі янычараў і манкуртаў.

Хочацца паспрачацца і з некаторымі іншымі высновамі шаноўнага апанента. Ён піша: «Если провести сейчас референдум по вопросу единения с Россией, то, безусловно, большинство (и подавляющее большинство) граждан Беларуси выскажется за единение. И сработает здесь прежде всего генетическая память, природно-исторический «комплекс», не поддающийся никакой «эрозии» под влиянием внешних импульсов. Ведь первичным и основополагающим в мировой систематике является этно-национальное деление, не зависящее от воли и желания людей; все же остальное, в том смысле и само государственное образование, блоки, союзы, социальное и экономическое устройство, являются той «инфроструктурой», которую человек волен создавать по своему усмотрению».

Так, беларусы і расійцы этнічна блізкія народы і яны павінны сябраваць, супрацоўнічаць, дапамагаць адзін аднаму. Але, мы ведаем, у гісторыі нашых узаемаадносін было і шмат негатыўнага. Яшчэ М.Доўнар-Запольскі ўказваў, што ў гістарычным мінулым гэтыя ўзаемаадносіны нярэдка мелі напружаны і варожы характар. Як правіла, Расія імкнулася падпарадкаваць сабе Беларусь. Таму не зусім мае рацыю А.Рогалеў, які гаворыць, што «сработает здесь прежде всего генетическая память». Генетычная, гістарычная і іншая памяць беларусаў падказвае ім і сёе-тое іншае: «Тату, тату, чорт лезе ў хату, — дарма, абы не маскаль», «Ад маскаля хоць палы абрэж, ды ўцякай», «З туль маскалі, а з туль шведы, недзе дзецца з вялікай беды»... Таму этнагенетычная памяць не заўсёды з'яўляецца галоўным фактарам яднання народаў. Яркі прыклад сербы і харваты, у адным выпадку, і чэхі і славакі, у другім. Сербы і харваты — блізкія ў этнагенетычных адносінах народы, яны маюць нават адну мову: сербахарвацкую. І ў той жа час яны ваявалі яшчэ раней (некалькі сот год таму назад) і цяпер ваююць паміж сабой. Крэўнае радство паміж сабой маюць таксама чэхі і славакі, яны ніколі паміж сабой не ваявалі, аднак і яны вырашалі жыць паасобку. Верагодна, у самастойным жыцці народа ёсць нешта прыцягальнае, прывабнае, калі многія народы імкнуцца да гэтага.

І яшчэ ў адным пытанні А.Рогалеў, мне здаецца, не мае рацыі. У прыватнасці, ён піша: «Мне кажется, что сами белорусизаторы не всегда понимают целесообразность своих действий. Мы ведь не должны переводить тягу к национальному в количественные измерения, а заботиться о качественном ее состоянии». Правільна, беларусізацыя павінна праводзіцца сумленнымі людзьмі, зацікаўленымі ў адраджэнні свайго народа, яго яднанні, кансалідацыі, а не бяздушнымі асобамі, якія ладзяць тое ці іншае мерапрыемства па беларусізацыі не з высокіх пабуджэнняў, а выключна дзеля «птушачкі». З папярэдніх публікацый А.Рогалева вынікае, што ён не задаволены тэмпамі, маштабамі беларусізацыі, якая цяпер на Беларусі праводзіцца. Яму не даспадобы, напрыклад, перавод школ у гарадах, мястэчках на беларускую мову, яму хацелася б, каб гэты працэс ішоў яшчэ больш павольна, каб душа маладога чалавека, у яго разуменні, у гэтай святой справе не ведала насілля. Але хай бы падумаў аб тым, ці раіўся хто-небудзь з былых чыноўнікаў народнай асветы з народам, ці пытаў хто яго думкі на гэты конт, калі масава зачыняліся беларускія школы, становячыся аўтаматычна рускамоўнымі? Гэтым самым калечылася душа дзіцяці, яно не магло спазнаць гістарычную і культурную спадчыну свайго народа. Адклад перавода садкоў, школ, вучылішчаў, тэхнікумаў, інстытутаў і іншых арганізацый, установ, ведамстваў на беларускую мову на няпэўны ці вельмі доўгі тэрмін загубіць, прынамсі, моцна аслабіць беларускае адраджэнне.

Прывядзём прыклад з Польшчай. Калі адрадзілася польская дзяржава ў канцы 1918 года, то палякі вельмі хутка перавялі многія навучальныя ўстановы, у тым ліку вышэйшыя, на польскую мову — не расцягвалі гэты працэс на неверагодна вялікі тэрмін. Сітуацыя ж у нас сёння куды больш горшая, чым тады ў Польшчы. Значыць, нам і бог наказваў не марудзіць. Бо можа здарыцца і такое, што працэс асіміляцыі ў нас набудзе незваротны характар. А пакуль што ёсць надзея вярнуць беларусаў з гістарычнага і культурнага бяспамяцтва — трэба спяшацца.

А.Рогалеў (як і нашы нядобразычлівцы з СС «Белая Русь») імкнецца навязаць нам думку, што расійцы, беларусы і ўкраінцы — гэта ўсходнеславянскі (рускі) суперэтнас, абумоўліваючы гэта рознымі прычынамі, фактарамі. Так, ён піша: «Наш суперэтнос определяется не размером и мощью, а степенью межэтнической близости и гармонией этноязыкового многоцветия. Восточная Славия испокон веков отличалась традицией конструктивного взаимодействия этнических структур и тем самым примирила в себе «европейский и азиатский дух», став Евразией не только географически, но и политически, идеологически, нравственно, культурно». Але ж нашаму народу ў антрапалагічных адносінах, бадай, больш блізкія паўднёва-ўсходнія жамойты (аўкштайты), паўднёва-ўсходнія латышы (латгальцы), палякі, чэхі, славакі. І ў гэтым нічога дзіўнага няма, бо, на думку некаторых вучоных, роля балцкага субстрату ў этнагенезе беларусаў меншая, чым, напрыклад, фіна-ўграў у этнагенезе расійцаў (Гл.: Алексеев В.П. Происхождение народов Восточной Европы. — М., 1969, с. 207—208).

Беларусы і расійцы хоць і этнічна блізкія, аднак самастойныя народы, кожны з якіх мае самабытную культуру. Нашы этнасы розняцца тэмпераментам, характарам, ментальнасцю. Рознае ў нас і гістарычнае мінулае, традыцыі, звычаі, міфалогія, фальклор і т.п.

І, вядома ж, галоўнае, чым розняцца беларусы ад расійцаў, дык гэта начыстая адсутнасць у іх імперскасці.

Калі Расію можна ўпэўнена аднесці да Еўразіі, то Беларусь — толькі з пэўнымі нацяжкамі. Больш правільна сказаць, што Беларусь з'яўляецца не столькі часткай Еўразіі, колькі знаходзіцца на геапалітычнай «граніцы паміж дзвюма вялікімі культурамі, еўрапейскай і еўразійскай («Московские новости». 1994. N 15, с. 9). Пра еўрапейскасць беларусаў сведчаць многія факты. Напрыклад, тое, што беларускае мастацтва, у тым ліку архітэктура, прайшло цераз амаль усе этапы свайго развіцця, як і заходнееўрапейскае (візантыйскі стыль з рысамі раманскага, готыка, рэнесанс, маньерызм, барока, класіцызм). Або вось такі факт. У XV—XVII стст. многія беларускія дзяржаўныя і грамадскія дзеячы, пісьменнікі, паэты, як правіла, арыенталіся на заходнееўрапейскія культурныя і маральныя каштоўнасці (шырокае распаўсюджанне лацінскай мовы ў правасуддзі, набажэнстве, навуцы, літаратуры, выкарыстанне ў статутах ВКЛ рымскага, нямецкага і польскага права, прымяненне войскам ВКЛ у XV ст. тактыкі бою і пэўнага ўзбраення крыжакоў і інш.).

А цяпер вернемся да нашай размовы аб Расіі і расійскім уплыве на Беларусь. Канечне, нам, беларусам, не мінуць расійскага ўплыву, які ўжо доўжыцца некалькі стагоддзяў падрад. Тут заўважым, што цэлы шэраг народаў, каб захаваць сябе і сваю культуру ў будучыні, дапускае ўплыў культур іншых народаў (без узаемаўзбагачэння не можа быць развіцця) і імі ўзбагачаецца. Яскравы прыклад Летувы-Жамойці, дзе з даўніх часоў адчуваўся ўплыў крывіцка-беларускай, польскай, нямецкай, а пазней і расійскай культур. Суседнія культуры канкурыравалі адна з адной, крыху нейтралізуючы свой уплыў на жамойцкую, што і стварала спрыяльныя ўмовы для выжывання і развіцця жамойцкага этнасу і яго культуры. Аднак і жамойты не спалі ў шапку, а змагаліся як маглі за сваю дзяржаўнасць, самастойнасць, культуру. Важна тое, што яны (балты) узбагачаліся культурамі моцных суседніх народаў.

А што ж выйшла ў нас з расійскім уплывам? Расійцы, адарваўшы нас ад Еўропы, праводзілі вельмі жорсткую (як нідзе ў Еўропе) палітыку асіміляцыі на нашых землях і стараліся як мага хутчэй сцерці нацыянальныя рысы, уласцівыя беларусам і іх культуры, русіфікаваць ліцвінаў-беларусаў, растварыўшы іх у бязмежным расійскім этнічным моры.

Пад канец А.Рогалеў, допускаючы нацяжкі, робіць выснову: «Таким образом, мы были, есть и будем частью Руси, «ядром» которой является Россия». Аднак мы не можам згадзіцца з гэтым, мы не лічым сябе часткай усходнеславянскага (рускага) суперэтнасу. Беларусы — гэта асобны еўрапейскі народ.

Нягледзячы ні на што, мы і расійцы павінны падтрымліваць паміж сабой узаемаадносіны нароўных, улічваць і паважаць гістарычныя, культурныя і іншыя асаблівасці адзін аднаго, развіваць узаемавыгаднае супрацоўніцтва, паважаць тэрытарыяльную цэласнасць і суверэнітэт адзін аднаго.

Да прац А.Рогалева я адношуся з павагай. У іх звычайна адсутнічае той непрыкрыты шавінізм, ненавукавасць і крыклівасць, якія часта можна сустрэць у малааб'ектыўных і шавіністычна настроеных аўтараў. У артыкулах і кнігах гэтага даследчыка адчуваецца навуковая добрасумленнасць, карэктнасць, як правіла, прыводзіцца вялікая колькасць фактаў, якія сведчаць аб высокай дасведчанасці і шырокім кругаглядзе аўтара. І ўсё ж некаторыя яго публікацыі, у прыватнасці, «Беларусь — это все-таки Русь...», не пазбаўлены тэндэнцыйнасці, шавіністычных нотак і памылковых поглядаў на беларусаў як на асобны еўрапейскі народ.

**Анатоль ЛЮБАНСКІ**

## РОЗДУМ КАЛЯ ПАЛОТНАЎ

**Па рашэнні ЮНЕСКА сёлетні год аб'яўлены годам сям'і. Зусім не фармальна паставіліся да гэтай падзеі супрацоўнікі Рэспубліканскай мастацкай галерэі: у пачатку чэрвеня тут экспанаваліся творы сямейнай пары мастакоў — Ірыны і Анатоля Кузняцовых.**

**Жывапіс Ірыны экспрэсіўны — гэта згустак неўтаймаванай энергіі, якую мастачка шчодра «выплёсквае» на палатно. Анатоль больш ашчадны, ён доўга і няспешна «назапашвае» свае ўражанні, а потым у адпаведным рытме стварае карціны, нібыта сплятае цудоўныя карункі.**

**Розныя і творчыя шляхі мастакоў. Ірына пасля заканчэння Беларускага тэатральна-мастацкага інстытута працуе на Мінскім камбінаце манументальна-дэкаратыўнага мастацтва, стварае аб'ёмна-прасторавыя кампазіцыі з літага шкла і металу, вітражы і люстры для інтэр'ераў бібліятэк, тэатраў, кафэ, рэстаранаў. Апошнім часам яна захапілася жывапісам, спрабуючы выказаць свае адносіны да самых складаных філасофскіх пытанняў жыцця. Амаль у кожнай яе працы адчуваецца дэкаратыўны пачатак, перавага асацыятыўнасці, адсутнасць сюжэтнай асновы. Іншы раз назва карціны нібы і «падштурхоўвае» гледача да канкрэтнага сюжэта, аднак жа сама структура абстрактнага жывапісу дазваляе і іншае прачытанне твора.**

**Анатоль Кузняцоў пасля заканчэння БДТМІ ўсе свае творчыя памкненні звязаў з жывапісам, паралельна працуючы выкладчыкам у Беларускай політэхнічнай акадэміі (на аддзяленні архітэктуры), у дзіцячай студыі выяўленчага мастацтва. У яго творах гаворыць сам колер, які нібыта рыфмуецца ў пэўным рытмічным спалучэнні і складаецца ў цудоўную каларыстычную гаму.**

**Выстаўка жывапісу Анатоля і Ірыны Кузняцовых была ўспрынята неадназначна. Для апалагетаў сацыялістычнага рэалізму — па-ранейшаму — незразумелая прыгожая «мазня». Для тых, хто адчувае тугу па духоўнасці, выстава Кузняцовых — глыток чыстай крынічнай вады, каб здаволіць смагу па сапраўдным мастацтве.**

**Неяк Анатоль мне сказаў: «Я заўсёды запрашаю гледача ў сааўтары, каб разам з ім убачыць незвычайнае ў звычайным, зрабіць новы крок да разгадкі таямніцы прыгажосці, навучыць яго аперыраваць вобразнымі катэгорыямі, дапамагчы яму зразумець, што мастацтва невычэрпнае, як неба з мірыядамі зорак і галактык, як Зямля з бясконцымі варыяцыямі формы і колеру».**

**Добра было б скончыць артыкул на такой мажорнай ноце. Але душэўны неспакой усё роўна не знікае... Прыгадаліся падзеі мінулага года. Старшыня Саюза мастакоў Беларусі Г.Буралкін і старшыня Саюза архітэктараў Беларусі В.Кавалеўскі звярнуліся да дэпутатаў Вярхоўнага Савета Беларусі ў сувязі з надзвычайным становішчам, у якім апынуліся творчыя саюзы. Размова была пра высокую плату за майстэрні, а па сутнасці пра існаванне творчых Саюзаў і нацыянальнай мастацкай культуры ўвогуле.**

**У ліку іншых мастакоў Ірына Кузняцова два гады таму (дзякуючы «клопату» дзяржавы) пазбавілася майстэрні з-за непамерна высокай арэнднай платы. Цяпер яна працуе ў адной майстэрні з Анатолем. Кошт яе (з красавіка 1994 г.) — амаль сем мільёнаў рублёў за месяц карыстання. Знайшліся, на шчасце, спонсары, якія заплацілі да канца года. А далей?**

**На сённяшні дзень Саюзы архітэктараў і мастакоў Беларусі, якія аб'ядноўваюць высокапрафесійных спецыялістаў, застаюцца практычна па-за межамі дзяржаўных праграм. Гэта пытанне з лістапада 1992 года «вырашаецца» ў Савеце Міністраў Рэспублікі Беларусь і Мінгарвыканкаме, але да сённяшняга дня застаецца адкрытым.**

**Трэба сказаць, што пакуль нашы дзяржаўныя мужы «вырашаюць» свае адносіны да нацыянальнай культуры, паяўляюцца ўжо людзі, якія зацікаўлены ў развіцці культуры. Дарэчы, калі б не падтрымка «Прыорбанка» і Беларускага Народнага банка, выстаўкі Кузняцовых, мусіць, прыйшлося б чакаць доўга.**

**Мікола ПАГРАНОЎСКІ, галоўны захавальнік Нацыянальнага мастацкага музея Рэспублікі Беларусь**

## ЗА МЕСЯЦ ДА ЮБІЛЕЮ...

**Марыя Камісарава вядомая і як паэтэса, і як перакладчыца. У тым ліку і беларускай літаратуры. Яна неаднаразова бывала на Беларусі, была знаёмая з асобнымі пісьменнікамі, а гэта спрыяла і творчым кантактам. На рускую мову М. Камісарава пераклала творы Я. Купалы, Я. Коласа, М. Багдановіча, Цёткі, П. Броўкі, А. Куляшова, П. Панчанкі, М. Танка, Э. Агняцвет і іншых паэтаў. У сваю чаргу па-беларуску яе вершы пераўвасаблялі С. Грахоўскі, М. Калачынскі, П. Макаль, К. Цвірка... Асобныя творы М. Камісаравай былі прадстаўлены ў зборніку «Паэты Ленінграда», што выйшаў у 1948 годзе. М. Камісарава прысвяціла Беларусі вершы «Беларусь», «Купалава крыніца», «Твая зямля», «Янку Купалу».**

**17 жніўня Марыі Іванаўне споўнілася б 90 гадоў. На жаль, яна не дажыла да юбілею: 28 ліпеня яе не стала.**

**Н. К.**

***Старэйшаму пакаленню нашых літаратараў добра знаёма імя Антона Семяновіча — крытыка і літаратуразнаўца, доктара філалагічных навук, прафесара. Каля 20 год ён загадваў кафедрай педінстытута імя Горкага, яго пяру належыць шэраг даследаванняў па гісторыі беларускай літаратуры, прозе і драматургіі. За плячамі ў Антона Аляксандравіча — доўгае жыццё, а значыць — усе выпрабаванні, якія выпалі на долю яго аднагодкаў, напружаная выкладчыцкая праца, сустрэча з цікавымі людзьмі. Тое, што было сучаснасцю для яго пакалення, для многіх з нас ужо гісторыя. Вось чаму так важна занатаваць, захаваць жывыя драбніцы таго часу...***

# ПОМНІЦЦА МНОГАЕ...

— Пасля заканчэння дзесяцігодкі паступіў я ў 1938 годзе на літаратурны факультэт Мінскага педагагічнага інстытута імя М. Горкага. Выбар такога факультэта тлумачыўся, па-першае, маёй вялікай любоўю да мастацкай літаратуры, па-другое, пэўны штуршок гэтаму дала выкладчыца рускай літаратуры вячэрняй школы (прозвішча яе, на жаль, не памятаю).

Аднačасова са мной на літаратурным факультэце вучыліся Мікола Аўрамчык, Аляксей Коршак, Алесь Астапенка, Мікола Лупсякоў, Анатоль Вялюгін, крыху раней — Іван Грамовіч, Васіль Івашын, Янка Казека, Рыгор Бярозкін. На экзаменацыйныя сесіі прыязджалі студэнты-завочнікі Пімен Панчанка, Алесь Бачыла, Рыгор Няхай.

**— Антон Аляксандравіч, што б вы маглі сказаць пра адметнасць тагачаснага студэнцтва ў параўнанні з сённяшнім?**

— Калі ўспамінаеш даваенны перыяд вучобы ў педінстытуце, то першае, што прыходзіць у галаву, гэта вялікі працэнт мужчын сярод студэнтаў. Так, напрыклад, большую палову студэнтаў літаратурнага факультэта складалі хлопцы. Другая асаблівасць тагачаснага студэнцтва заключалася ў тым, што значная частка яго да паступлення ў інстытут мела, як і я, па некалькі гадоў працоўнага, вытворчага стажу. Некаторыя працягвалі працаваць (вечарамі) і ў час вучобы, бо стыпендыя, якую яны атрымлівалі, далёка не забяспечвала іх. Да ліку такіх адносіўся і я, бо не атрымліваў дапамогі ад сваякоў — бацькоў я страціў у пачатку 30-х гадоў. Адзначу, што такая перагружанасць некаторых студэнтаў не адбівалася адмоўна на іх паспяховасці. Мусіць, таму, што вытворчая праца прывучала людзей да самастойнасці, дысцыпліны, да ўмення рацыянальна, эканомна траціць свой час, чаго, на жаль, не хапае многім цяперашнім студэнтам.

**— Ваша вучоба ў педінстытуце была перапынена вайною...**

— Субота 21 чэрвеня 1941 года была звычайным рабочым днём. У гэты дзень я здаў перадапошні экзамен за трэці курс літфака. Назаўтра, у нядзелю, прачнуўся надзвычай рана ад страшэннага рову самалётаў. Адзін за адным самалёты-знішчальнікі ляталі над горадам вельмі нізка. Падумалася, што гэта чарговыя паветраныя вучэнні лётчыкаў. Але чаму над горадам? Раней, здаецца, гэтага не было, вучэнні праходзілі воддаль ад горада. Яшчэ крыху паляжаўшы, мы з Сяргеем Ганчарыкам, таксама студэнтам, з якім кватаравалі ў адным пакойчыку, усталі, паснедалі і задумаліся, куды б сёння пайсці, дзе правесці вольны час, тым больш што Сяргей здаў учора апошні экзамен. Успомнілі, што на сёння гарадская ўлада прызначыла ўрачыстае адкрыццё Камсамольскага возера, якое мы будавалі ўласнымі рукамі. А самалёты тым часам працягвалі баражыраваць неба над горадам са страшнымі завываннямі матораў, наводзячы на людзей страх. Так пачалася вайна.

На трэці дзень, дваццаць чацвёртага чэрвеня, роўна ў дзевяць гадзін раніцы (немецкая пунктуальнасць) над Мінскам паявілася група варожых бамбардзіроўшчыкаў (юнкерсаў) — ці не пяцьдзесят машын. Мы з Сяргеем у гэты час стаялі ў чарзе па хлеб каля магазіна, што знаходзіўся на Грушаўскім пасёлку. Самалёты ішлі якраз над нашымі галовамі. Усе людзі кінуліся хто куды. Мы адбегліся ад магазіна і заляглі на агародзе ў бульбе. Гул нямецкіх самалётаў значна адрозніваўся ад гулу нашых, ён вызначаўся нейкім своеасаблівым сталёвым звонам. Адчувалася, што гэтыя баявыя машыны магутныя, браніраваныя. Калі пасыпаліся з самалётаў бомбы, то адчуванне такое, нібыта ўсе яны ляцяць на цябе. І тады ты імкнешся як мага шчыльней прыціснуцца да зямлі. Нашы зенітчыкі не траплялі ў цэль, і самалёты беспакарана рабілі сваю чорную справу. Калі ж паказалася некалькі нашых знішчальнікаў, яны тут жа былі збіты нямецкімі самалётамі, загарэліся, як свечкі, і рухнулі на зямлю.

Бамбардзіроўка працягвалася да самага вечара з інтэрваламі ў адну-дзве гадзіны і за адзін дзень дваццаць чацвёртага чэрвеня Мінска па сутнасці не стала, засталіся толькі ўскраіны з іх драўлянымі хатамі. Тысячы мінчукоў загінулі ў час гэтай варварскай бамбардзіроўкі. Некаторых жывымі былі пахаваны пад руінамі будынкаў. Цудам уцалеў Дом урада; мабыць, нямецкае камандаванне спецыяльна не давала загаду бамбіць яго, каб захаваць для сваіх патрэб. У час акупацыі Мінска ён служыў месцам адпачынку нямецкіх лётчыкаў, якія прыбывалі сюды пасля баявых аперацый.

**— Што было далей, якое рашэнне вы прынялі ў гэтай сітуацыі?**

— Разам з сям'ёй гаспадара дома Казіміра Качаноўскага ноч мы правялі за горадам. Раніцай развіталіся і рушылі на паўднёвы ўсход, маючы намер прабіцца ў Гомель, які, па нашых меркаваннях, не мог быць хутка захоплены нямецкімі войскамі, бо яны ўсю ўвагу засяродзілі на цэнтральным накірунку: Брэст — Мінск — Смаленск — Масква. Спадарожнікаў у нас не было, бо патокі бежанцаў хлынулі на маскоўскую дарогу.

Падыходзячы бліжэй да Бабруйска, пачалі сустракаць людзей, што ішлі ў процілеглы бок, у напрамку да Мінска. Аказалася, немцы ўжо ў Бабруйску, нікога на ўсход не пускаюць. Нам стала страшна. Што рабіць? Ці ісці наперад, ці назад — усё роўна пападзеш да немцаў. Вырашылі ісці ў Бабруйск, балазе ён быў ужо недалёка.

**— І ці доўга вы затрымаліся ў Бабруйску?**

— Нядоўга. Паначаваўшы, мы адправіліся ў зваротны шлях. Прытрымліваючыся чыгуначнага палатна (каб не збіцца з дарогі), за першы дзень адмахалі паўсотню кіламетраў і апынуліся ў Асіповічах, дзе ўжо таксама былі немцы. Паначаваўшы тут, пайшлі далей. Праз кіламетраў пятнаццаць убачылі штосьці незвычайнае: нашы, савецкія салдаты-канваіры з вінтоўкамі наперавес гналі даволі вялікую калону зняволеных, мабыць, на работу. Аказваецца, тут, у глухім лясным масіве паміж Асіповічамі і Пухавічамі, яшчэ па-ранейшаму гаспадарыла савецкая ўлада. Афіцэр-канваір, заўважыўшы нас, паклікаў да сябе і спытаў, адкуль мы ідзём. Мы сказалі, што з Бабруйска. «А почему идете не на восток, а на запад?» — зноў запытаў ён. «Таму што Бабруйск ужо некалькі дзён як заняты немцамі, Асіповічы таксама», — адказалі мы. Афіцэр спачатку здзівіўся, потым разгневаўся і стаў крычаць на нас, што мы сеем паніку, а за гэта можна «схлопотать» па законах ваеннага часу. Мы, вядома, перапалохаліся. Потым ён крыху астыў, супакоіўся і ўсё дапытваўся, ці праўду мы гаворым...

**— Антон Аляксандравіч, я ведаю, што тады вы вярнуліся на радзіму, у сваю родную Шабунеўшчыну, сталі займацца гаспадаркай.**

— Так. Жыццё пад акупацыяй спачатку здалося не такім ужо і страшным. Немцы паводзілі сябе даволі мірна, ды і з'яўляліся яны ў нашай вёсцы рэдка. Бывала, заедуць на матацыкле ці на аўтамабілі некалькі чалавек, каб пажывіцца яйкамі ці курыцай, пры гэтым часцяком нават разлічваліся акупацыйнымі маркамі, якія, відаць, для іх не мелі асаблівай каштоўнасці: больш беражлівыя былі яны да рэйхсмарак. З калгаснай маёмасці ў першую чаргу бралі ў выглядзе абавязковых паставак збожжа, бульбу і прадукты жывёлагадоўлі — малако, мяса. Акупацыйныя ўлады строга сачылі, каб план паставак сельскагаспадарчых прадуктаў выконваўся своечасова, з нямецкай пунктуальнасцю, адказнасць за гэта неслі мясцовыя цывільныя ўлады, у першую чаргу валасці, якія выконвалі функцыі ранейшых сельсаветаў.

Набліжалася вясна. Немцы вырашылі распусціць калгасы, даць сялянам зямлю ў асабістае карыстанне, падзяліць калгасную маёмасць, у першую чаргу коней, збрую, сельскагаспадарчы інвентар, паміж калгаснікамі, бескароўным сем'ям даць па адной карове. Усю астатнюю калгасную жывёлу — кароў, цялят, свіней, авечак — акупацыйныя нямецкія ўлады забралі сабе. Я таксама атрымаў у Шабунеўшчыне зямельны надзел, здаецца, дзевяць гектараў. Апрача таго, пры падзеле калгаснай маёмасці мне выдзелілі маладога каня са збруяй, карову, плуг, барану. Калёсы далі на двух гаспадароў.

А жыццё, між тым, на акупіраванай тэрыторыі працягвалася па законах ваеннага часу. Усё больш шырокі размах набывала партызанская барацьба. Пры гэтым пачатак яе, на маю думку, не быў загадзя спланаваны, ён меў стыхійны характар. Я не зусім згодзен з тымі савецкімі даследчыкамі партызанскага руху на Беларусі, якія сцвярджаюць, што ўжо з першых дзён вайны гэты рух нібыта арганізоўваўся і накіроўваўся камуністычнай партыяй, падпольнымі партыйнымі арганізацыямі. Як жывы сведка тых падзей мушу сказаць, што самымі першымі асяродкамі антыфашысцкага супраціўлення на акупіраванай беларускай зямлі былі невялікія разрозненыя групы нашых воінаў-акружэнцаў, якім не ўдалося выйсці з варожага акружэння і далучыцца да дзеючай арміі, а здавацца ў палон не захацелі. Яны знайшлі сабе прыстанішча ў беларускіх лясах, начамі наведваліся ў вёскі, каб здабыць які-небудзь харч, часамі наладжвалі дыверсіі на чыгунцы, на аўтамабільных магістралях. Такіх салдат і афіцэраў я сам бачыў восенню 1941 года, калі яны прыходзілі ў вёску Ракаедаўшчына, з некаторымі нават размаўляў. Ніякага партыйнага кіраўніцтва ў іх тады не было. Паступова такія групы колькасна павялічваліся. Асабліва значным быў іх рост вясною 1942 года, калі нямецкія ўлады пад выглядам перарэгістрацыі так званых прыпіснікоў (былых воінаў Чырвонай Арміі, якім было дазволена жыць на акупіраванай тэрыторыі з умовай прыпіскі іх да пэўнага паселішча і пэўнай сям'і) вырашылі сагнаць іх у лагеры для ваеннапалонных і значную частку адправіць у Германію. Менавіта з вясны 1942 года і пачаўся больш шпаркімі тэмпамі пашырацца партызанскі рух, у які ўсё больш і больш улівалася мясцовае насельніцтва. Вось якраз тады, мабыць, і паявіліся партыйныя функцыянеры з былых партыйных мясцовых органаў, а таксама закінутыя самалётамі з «вялікай зямлі», з Масквы, з Цэнтральнага штаба партызанскага руху. Камуністычная партыя, вядома, не магла дапусціць, каб патрыятычны рух народных мас быў без яе «мудрага» кіраўніцтва, бо яшчэ, чаго добрага, партызаны не так, як трэба, будуць страляць, знішчаць захопнікаў.

Трэба сказаць, у гэты час людзі ў лес ішлі сем'ямі, у партызанскай зоне ўтвараліся цэлыя сямейныя лагеры. Дарэчы, гэта вельмі абцяжарвала партызан, перашкаджала іх манеўранасці, мабільнасці. Да таго ж такая вялікая колькасць людзей патрабавала шмат хлеба і іншых прадуктаў харчавання. Вось чаму за час акупацыі Беларусі наш селянін дарэшты згалеў, амаль цалкам пазбавіўся ўсёй сваёй гаспадаркі, хатняй жывёлы: свіней, авечак, кароў, курэй, гусей і інш. Сяляне, што жылі паблізу нямецкіх гарнізонаў, хавалі на ноч сваіх кароў у гэтых гарнізонах. Атрымлівалася, што акупанты ратавалі іх кароў ад партызан. Парадаксальна, але гэта факт. Шабунеўцы, напрыклад, ратавалі сваіх кароў на торфапрадпрыемстве Мелешава, дзе быў размешчаны нямецкі гарнізон. Такім чынам, тагачасны беларускі селянін вымушаны быў карміць і акупантаў, і паліцаяў, і партызан з іх сем'ямі.

**— Антон Аляксандравіч, у гады вайны вы былі сувязным партызанскага атрада, кіраўніком падпольнай групы. Што помніцца з таго часу?**

— Помніцца многае. У студзені 1944 года мне было даручана даставіць з Мінска прыгатаваныя мінскімі падпольшчыкамі некаторыя рэчы для партызан: патроны, дэталі для радыёпрыёмніка, батарэйкі для электраліхтарыкаў. Для перавозкі прыдумалі такі план: везці ў Мінск жыта, змалоць там і ў мяшкі з мукою схаваць усе партызанскія «цацкі»... І вось выязджаю я з горада на слуцкую дарогу. На санях мяшкі з мукою, значыць, еду з млына. На мне стары латаны сялянскі кажух, на нагах суконныя буркі з гумавымі бахіламі, на галаве аблавушка. Стары конік ідзе павольнаю ступою. Перад кантрольным пунктам (на выездзе з Мінска) яшчэ раз правяраю пасведчанне (аўсвайс) і спецыяльны пропуск, выпісаны шэфам мелешаўскага торфапрадпрыемства. Дакументы ў парадку, але... сэрца не ў парадку, яно пачало трывожна калаціцца, нібы прадчуваючы штосьці нядобрае. Вось і паласатая будка, кантрольны пункт. Адзін немец наставіў на мяне аўтамат, другі пытае дакументы. Праверыўшы аўсвайс і пропуск, загадаў скінуць з саней мяшкі з мукой, пачаў корпацца ў саломе і сене. Ну, думаю, трасцу ты тут што знойдзеш, не такі я дурны, каб тут хаваць штосьці. І раптам... О жах! Другі немец, той, што трымаў мяне пад аўтаматам, дастаў з аправы нож-штык і пачаў тыркаць ім мяшкі. Сэрца маё зайшлося і, як гавораць, з грудзей перайшло ў пяткі. Ну вось, думаю, і канец табе, былы бедны студэнт і цяперашні няўдалы гаспадар. І, як маланка, мільганула думка: а што ж будзе з жонкай, з маленькай дачушкай, якой нядаўна споўнілася паўгодзіка? З імі ж таксама рас-

правяцца, бо адрас мой указаны ў аўсвайсе і пропуску...

Той мех, у якім былі схаваны рэчы для партызан, правяраўся апошнім. Мабыць, немцу надакучыла ўжо вазіцца са мною, ці, можа, таму, што пад'ехала да будкі яшчэ адна падвода, якую трэба было правяраць, але ён толькі адзін раз пырнуў у мяшок, ад якога залежаў мой лёс, і, махнуўшы рукой, сказаў: «Вэк»! І гэта чужое і не вельмі прыстойнае слова паказалася мне тады самым мілагучным. Вечарам, вымаючы з мяшка партызанскія «цацкі», я пераканаўся, што нарадзіўся ў кашулі: нямецкі нож-штык прайшоў у некалькіх міліметрах ад батарэйкі. Жыццё маё вісела на валаску...

Успамінаючы пра партызан часоў мінулай вайны, не магу не сказаць аб тым, што не ўсе іх дзеянні выклікаліся неабходнасцю барацьбы з акупантамі, мелі, так бы мовіць, разумны характар. Так, напрыклад, у Койданаўскім раёне амаль усе вясковыя вадзяныя млыны былі знішчаны партызанамі, засталіся толькі тыя, якія знаходзіліся ў партызанскай зоне і абслугоўвалі партызан. Акупанты ад гэтага ніколькі не пацярпелі, бо ў Койданаве быў паравы млын, які забяспечваў мукой не толькі мястэчка, але і ўсе гарнізоны раёна. А вось сялянам было горш, яны вымушаны былі майстраваць ручныя жорны, а ячмень на крупы таўклі ў ступах. Будынкі большасці вясковых школ таксама былі спалены, маўляў, няма чаго вучыцца савецкім дзецям у фашысцкіх школах. Знішчаліся і малочныя сепаратарныя пункты, куды сяляне здавалі малако згодна з даведзеным ім акупантамі планам натуральнага падатку. Калі такі пункт быў знішчаны ў суседняй з Шабунеўшчынай Брумараўшчыне, то сялян прымусілі вазіць малако значна далей — у Фаніпаль альбо Самахвалавічы. Такія дзеянні партызан не наносілі акупантам ніякай шкоды, а вось мясцовае насельніцтва цярпела ад іх значны ўрон.

**— Антон Аляксандравіч, адразу пасля вайны вы закончылі вучобу ў педінстытуце. А як прыйшлі ў навуку?**

— Як і многія: у 1946 годзе паступіў у аспірантуру. Памятаецца, першы ўступны экзамен быў па беларускай літаратуры. Экзаменатары — Кандрат Крапіва і Міхась Лынькоў; яны працавалі тады ў Інстытуце мовы, літаратуры і мастацтва Акадэміі навук Беларусі. Экзамен гэты адбыўся на кватэры Лынькова, якая знаходзілася на другім паверсе драўлянага двухпавярховага дома па вуліцы Берсана, недалёка ад Чырвонага касцёла і Дома ўрада, бо ў інстытуце, які месціўся ў невялікім пакоі ў ацалелым ад вайны доме па Маскоўскай вуліцы, не было дзе прытуліцца. Адначасова са мной здавалі экзамен Васіль Івашын і Марына Барсток. Усе трое мы былі першымі пасляваеннымі аспірантамі па беларускай літаратуры ў Акадэміі навук. Праўда, падаваў заяву ў аспірантуру яшчэ чацвёрты чалавек, мой аднакурснік Жэня Пячаткін, але яго не дапусцілі да экзаменаў, бо ён у час акупацыі Мінска працаваў у немцаў ахоўнікам дрывянога складу.

**— Ваша дысертацыйная работа была звязана з творчасцю Я. Коласа. А ці даводзілася сустракацца з самім пісьменнікам?**

— Даводзілася. У 1948 годзе, пасля аднаўлення галоўнага корпуса Акадэміі навук, у адбудове якога разам з навуковымі супрацоўнікамі прымалі ўдзел і мы, аспіранты, я перасяліўся з прыватнай кватэры ў інтэрнат для аспірантаў, які часова размясціўся ў тым жа корпусе на чацвёртым паверсе. З акна нашага пакоя адкрываўся від на акадэмічны двор, на сядзібу Якуба Коласа, які жыў са сваёю сям'ёю ў невялічкім драўляным доме. Амаль кожную раніцу (вясной і летам) мы, аспіранты, маглі бачыць, як наш народны паэт ужо ў гадзін шэсць з кійком у руках аглядаў свае «палеткі». Як сын беларускай вёскі Я. Колас не мог жыць, не бачачы, не адчуваючы ўсяго таго, што тысячамі ніцяў звязвае селяніна-працаўніка, хлебароба з зямлёй-карміцелькай. Вось чаму ён на сваёй сялібе, акрамя агародных культур, сеяў збожжавыя: па градцы жыта, ячменю, аўса, грэчкі. Агляд сваіх «палеткаў» Я. Колас рабіў уважліва, з вялікай любоўю і замілаваннем. І перш за ўсё падыходзіў да жытняй градкі.

Асабліва запомнілася мне сустрэча з Я. Коласам зімою 1950 года, у яго на кватэры. Памятаю, Колас стаяў каля цёплай грубкі ў звычайным сялянскім доўгім кажуху, і мне імгненна прыйшоў на памяць герой яго гумарыстычна-сатырычнага апавядання «Кажух старога Анісіма». Я, асмялеўшы, пачаў казаць, што пішу кандыдацкую дысертацыю пра яго дарэвалюцыйную прозу, і мне вельмі важна высветліць з аўтарам некаторыя пытанні, што ўзніклі ў працэсе даследавання. Падумаўшы мо з паўхвіліны, мой субяседнік сказаў: «Пра мяне і маю творчасць ужо нямала пісалі, і хвалілі, і лаялі, абвінавачвалі ў розных грахах. Вы, напэўна, чыталі. Наконт лаянкі і абвінавачванняў, то больш за ўсё дасталося ад лукавага Бэнды, і не толькі мне, а і Купалу і іншым нашым пісьменнікам... Гэты заўзяты, ваяўнічы крытык шмат каму з нас папсаваў крыві. Але ж былі і сумленныя, таленавітыя крытыкі, якія добра разбіраліся ў мастацкай літаратуры і давалі аб'ектыўную, правільную ацэнку творчасці таго ці іншага пісьменніка. Я вельмі высока цаню навукова-даследчую працу акадэміка Замоціна, прафесара Вазнясенскага. Вазнясенскі жыве цяпер у Казані, працуе ў Казанскім універсітэце. Вам варта было б з ім звязацца. Ён пісаў пра мае апавяданні ў «Полымі» ў канцы дваццатых гадоў».

У час нашай гутаркі зазваніў тэлефон, прарэзлівы і амаль несупынны — міжгародні. Канстанцін Міхайлавіч хуценька падышоў да тэлефона, узяў трубку, і я пачуў яго голас: «Сынок, чаму ж ты маўчыш? Не звоніш, не пішаш. Мы ўжо тут занепакоіліся, падумалі, ці не захварэў ты, часам». З гэтых слоў я зразумеў, што званіў малодшы сын Коласа Міхась, які вучыўся тады ў Ленінградзе, здаецца, у політэхнічным інстытуце. Вярнуўшыся ад тэлефоннага апарата, Канстанцін Міхайлавіч, паказаўшы рукою на талерку з яблыкамі, прапанаваў мне частавацца. Вельмі хацелася паласавацца свежымі яблыкамі, ды яшчэ марозным студзеньскім вечарам, але я перамог сябе, падзякаваўшы, адмовіўся.

Шмат пытанняў было ў мяне да Коласа адносна трактоўкі ідэйнай сутнасці некаторых яго алегарычных апавяданняў з цыкла «Казкі жыцця». Я адразу адчуў, што мой субяседнік пазбягае канкрэтнай гаворкі на гэту тэму, зазначаючы, што часта адзін і той жа алегарычны твор можна тлумачыць па-рознаму. Але мне вельмі хацелася пачуць з вуснаў самога Коласа хаця б прыкладны адказ на тую думку, якая закладзена ў алегарычным апавяданні «Стары лес», напісаным, мабыць, адразу пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі. У гэтым творы аўтар, думаецца, асудзіў грамадзянскую вайну, якая ўзнікла пасля кастрычніцкага перавароту, у выніку якога бальшавікі сілаю захапілі ўладу. Калі я спытаў Коласа, што ж усё-ткі ён думаў, калі пісаў апавяданне «Стары лес», то ў адказ пачуў панароднаму дасціпнае: «От, што думаў, тое і пісаў, а што пісаў, тое і думаў. А вы, крытыкі, можаце трактаваць, як вам уздумаецца».

**— Антон Аляксандравіч, вы ўдзельнічалі ў пахаванні Я. Коласа...**

— Пахаванне Якуба Коласа адбылося, здаецца, шаснаццатага жніўня 1956 г. Труна з целам народнага паэта была ўстаноўлена ў Палацы прафсаюзаў. Два дні бесперапыннай плынню ўліваліся ў гэты будынак тысячы людзей. Дзяржаўная харавая капэла Беларусі пад кіраўніцтвам народнага артыста СССР Рыгора Шырмы ўпершыню выканала рэквіем Моцарта, на што спатрэбіўся дазвол ЦК КПБ, бо рэквіем, як вядома, твор духоўнай, царкоўнай музыкі, гэта памінальная служба па памерлых.

Такога пахавання, як пахаванне Я. Коласа, горад Мінск, мусіць, ніколі раней не бачыў. Дарэчы, мне даручана было тэрмінова напісаць для прэзідэнта Акадэміі навук В. Купрэвіча жалобнае слова на беларускай мове, якое ён павінен быў гаварыць у час грамадзянскай паніхіды. Я даволі хутка напісаў, як мне здавалася, нядрэннае, пранікнёнае памінальнае слова. Яно было надрукавана ў тагачасных беларускіх і маскоўскіх газетах, у тым ліку і ў «Правде». Шчыра кажучы, мне ўсё ж сорамна было за нашага прэзідэнта акадэміі, паважанага мною чалавека...

**— Антон Аляксандравіч, што б вы маглі сказаць пра работу ў недалёкім мінулым ідэалагічных службаў, пра кіраўніцтва літаратурай партыйных органаў?**

— О, гэта тэма для шырокай размовы... Дзесьці ў другой палове 50-х гадоў адбыўся пашыраны пленум праўлення Саюза пісьменнікаў Беларусі, на які былі запрошаны многія літаратары. Усе віталі, ухвалялі рашэнні XX з'езда партыі, выказвалі спадзяванне на тое, што гэтыя рашэнні створаць больш спрыяльную атмасферу для творчай дзейнасці пісьменнікаў, для праўдзівага паказу імі жыцця людзей. Слова на ім узяў сакратар ЦК КПБ па ідэалогіі Ц. Гарбуноў — чалавек вельмі абмежаваны, але «адданы партыі», «справе камунізму». Сваё выступленне, якое, па сутнасці, і не адбылося, ён пачаў так: «Товарищи писатели! Никакой отсебятины. Партия укажет вам, как писать». Цяжка перадаць словамі тое гнеўнае абурэнне пісьменнікаў, якое было выклікана гэтымі трыма фразамі. У зале ўзняўся шум, пачуліся свіст, тупат ног, затым воклічы: «Прэч дурня з трыбуны!» Крыкі гучалі да таго часу, пакуль пасаромлены, пачырванелы, як рак, Гарбуноў не пакінуў трыбуну і не выйшаў з залы.

Пасля такога канфузу Гарбуноў вельмі хутка быў зняты з пасады сакратара ЦК КПБ. Але яму было загадзя падрыхтавана цёплае месца ў Акадэміі навук. Ён быў абраны акадэмікам і прызначаны на пасаду акадэміка-сакратара аддзялення грамадскіх навук. Пра камедыю выбараў Гарбунова ў акадэмікі можна было б расказаць асобна...

І вось аднойчы выклікае мяне Гарбуноў да сябе. Ад нечаканасці я нават крыху сумеўся, падумалася, з якой гэта нагоды спатрэбіўся яму. Не запрасіўшы мяне нават сесці, Цімафей Сазонавіч, узняўшыся з крэсла, адразу ж пайшоў у атаку. «Так это вы Семенович! Это вы подготовили к изданию сборник избранных произведений Максима Горецкого и написали предисловие, в котором расхвалили этого писателя! А вы знаете, что он враг советской власти, злейший враг советской власти?!» У адказ я стаў гаварыць, што Гарэцкі рэабілітаваны і што гэта адзін з лепшых беларускіх празаікаў. Гарбуноў злосна абараваў мяне і, наліўшыся чырванню, запярэчыў: «Его реабилитация гражданская, а не политическая, он политический противник советской власти, он враг советской власти. Сейчас же идите в издательство и заберите рукопись сборника, враги советской власти не должны печататься».

Вярнуўшыся ў інстытут, я адразу ж пазваніў у рэдакцыю мастацкай літаратуры Беларускага дзяржаўнага выдавецтва. Трубку ўзяў старшы рэдактар Мікола Татур, з якім я дамаўляўся аб падрыхтоўцы да выдання зборніка выбраных твораў М. Гарэцкага. Выслухаўшы мяне наконт маёй сустрэчы з Гарбуновым, Татур сказаў: «Пашлі гэтага дурня на тры літары і сам не хвалюйся. Зборнік уключаны ў выдавецкі план, план зацверджаны ўсімі інстанцыямі. Гарбуноў проста хацеў запалохаць цябе».

Дарэчы, у 1963 годзе я перайшоў на сталую працу ў Мінскі педінстытут імя М. Горкага. Прычына — абвастрэнне адносін паміж мною і дырэктарам Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы В. Барысенкам. А пачалося ўсё з таго, што я заступіўся за аднаго малодшага навуковага супрацоўніка інстытута Дзмітрыя Бародзіча, якога дырэктар задумаў звольніць з працы. Бародзіч аказаўся «няўгодным» Барысенку таму, што зашмат ведаў пра яго былую дзейнасць. Ён часцяком паказваў супрацоўнікам інстытута фотакопіі друкаваных у перыёдыцы 30-х гадоў артыкулаў Барысенкі, у якіх узводзіўся паклёп на некаторых беларускіх пісьменнікаў, яны абвінавачваліся як «ворагі народа». Але па гэтай прычыне звольніць Бародзіча нельга было, таму Барысенка вырашыў дзейнічаць іншым шляхам. Ён стварыў атэстацыйную камісію з асабіста адданых яму супрацоўнікаў інстытута і даў ёй заданне праверыць усю навуковую працу Бародзіча, выявіць яе недахопы і даць заключэнне аб нізкай якасці ўсёй яго навуковай прадукцыі. Услужлівая камісія так і зрабіла. На аснове яе вывадаў вучоны савет не атэставаў Бародзіча як малодшага навуковага супрацоўніка, і дырэктар інстытута меў законнае права звольніць яго як прафесійна непрыгоднага. Усё гэта, вядома, было шыта белымі ніткамі, і на вучоным савеце ў час адабрэння вывадаў атэстацыйнай камісіі я выказаў нязгоду і ўстрымаўся ад галасавання.

Такія мае паводзіны, вядома ж, не маглі спадабацца Барысенку. Адразу ж ён змяніў свае ранейшыя лаяльныя, нават добразычлівыя адносіны да маёй асобы. Вось чаму перада мной паўстала задача тэрмінова шукаць іншае месца і як найхутчэй звальняцца з Інстытута літаратуры.

**— Антон Аляксандравіч, вы яшчэ памятаеце часы, калі селянін меў зямлю, пасля, ладзячы калгасы, яе ў яго адабралі, зараз нібыта зноў даюць. Як вы, чалавек, які шмат чаго на сваім вяку пабачыў і перажыў, ставіцеся да сучасных грамадскіх пераўтварэнняў?**

— Да сучасных грамадскіх пераўтварэнняў у асноўным стаўлюся скептычна. Вядома, нельга не бачыць пэўных пазітыўных зрухаў: плюралізм, свабода слова, пазбаўленне людзей ад шматгадовага страху ўсемагутнага КДБ, адраджэнне нацыянальнай школы, прызнанне беларускай мовы дзяржаўнай і шмат іншага. Што ж датычыцца эканомікі, то ўжо колькі год кожны дзень чуеш адно і тое ж: Беларусь уступіла ў перыяд рынкавых адносін. Але ж пакуль што гэтыя рынкавыя адносіны знаходзяцца ў зародкавым стане, на іх шляху нагрувашчана шмат перашкод, асабліва з боку дзяржаўных уладавых структур, дзяржаўных чыноўнікаў розных рангаў. Такія чыноўнікі па шматгадовай традыцыі прывыклі жыць чужым розумам, указаннямі з цэнтра, гэта значыць, з Масквы — сталіцы былога СССР. Адвыкнуць ад гэтага ім вельмі цяжка, хоць Беларусь і стала ўжо незалежнай дзяржавай. Замест таго, каб шукаць нейкіх новых і самастойных шляхоў у развіцці суверэннай Беларусі, у наладжванні яе эканомікі, нашы кіраўнікі ўсё паглядаюць на Усход, чакаюць нейкай манны нябеснай ад Расіі. Але ж гэта самападман, фантастыка, ніхто такой манны задарма не дасць. Часам думаецца, што нашы дзяржаўныя мужы вядуць справу да таго, каб пазбавіць Беларусь яе самастойнасці, незалежнасці, каб яна зноў стала ўскраінай Расійскай дзяржавы, увайшла ў яе склад на правах федэрацыі ці ў лепшым выпадку — канфедэрацыі. Ну, а тады зноў наступяць для іх залатыя дзянёчкі: не трэба самім ламаць галаву, як палепшыць дабрабыт народа, за ўсё будзе несці адказнасць Масква. Ды і з беларушчынай можна будзе пакончыць, якая для іх як костка ў горле. Безумоўна, з Расіяй, з рускім народам нам трэба жыць так, як жывуць добрыя суседзі — у поўнай злагадзе, узаемапавазе і ўзаемадапамозе, наладзіць разумныя і ўзаемавыгадныя эканамічныя адносіны. Але ні ў якім разе нельга страчваць свайго суверэнітэту, сваёй чалавечай і нацыянальнай годнасці.

**Гутарку вёў**
**Мікола МІКУЛІЧ**

ЛіМ ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

**Заснавальнікі:**
**Саюз пісьменнікаў Беларусі і Міністэрства культуры і друку Рэспублікі Беларусь**

**Выходзіць з 1932 года**

***Газету рэдагавалі***

| | |
|---|---|
| *Х.Дунец* | *(1932-35)* |
| *І.Гурскі* | *(1935-41)* |
| *А.Куляшоў* | *(1945-46)* |
| *М.Горцаў* | *(1947-49)* |
| *П.Кавалёў* | *(1949-50)* |
| *В.Вітка* | *(1951-57)* |
| *М.Ткачоў* | *(1957-59)* |
| *Я.Шарахоўскі* | *(1959-61)* |
| *Н.Пашкевіч* | *(1961-69)* |
| *Л.Прокша* | *(1969-72)* |
| *Х.Жычка* | *(1972-76)* |
| *А.Асіпенка* | *(1976-80)* |
| *А.Жук* | *(1980-86)* |
| *А.Вярцінскі* | *(1986-90)* |

**Галоўны рэдактар**
**Мікола ГІЛЬ**

**РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА:**
**Святлана БЕРАСЦЕНЬ**
**Андрэй ГАНЧАРОЎ**
***першы намеснік галоўнага рэдактара***
**Юрась ЗАЛОСКА**
**Міхась ЗАМСКІ**
**Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ**
**Барыс ПЯТРОВІЧ**
***намеснік галоўнага рэдактара***
**Юрась СВІРКА**

**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
**220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19**

**ТЭЛЕФОНЫ:**
**прыёмная рэдакцыі *332-461***
**намеснікі галоўнага рэдактара *332-525, 331-985***
**аддзелы:**
**публіцыстыкі *332-525***
**пісьмаў і грамадскай думкі *331-985***
**літаратурнага жыцця *332-462***
**крытыкі і бібліяграфіі *332-204***
**паэзіі і прозы *332-204***
**музыкі *332-153***
**тэатра, кіно і тэлебачання *332-153***
**выяўленчага мастацтва і ахоўвы помнікаў *332-462***
**навін *332-462***
**мастацкага афармлення *332-204***
**фотакарэспандэнт *332-462***
**бухгалтэрыя *268-640***

*Пры перадруку просьба спасылацца на "ЛіМ".*
*Рукапісаў рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе.*
*Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з думкамі і меркаваннямі аўтараў публікацый.*

**Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра «ЛіМа»**

**Апаратныя сродкі і тэхнічная падтрымка — фірма «Дайнова»**

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня "Беларускі Дом друку" (г.Мінск, пр. Ф.Скарыны, 77)

Індэкс 63856. Наклад 11.194.
Нумар падпісаны 11.08.1994 г.

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

